НАР·КАМ·ЗЕМЛЯРОБСТВА·БССР.

# ПЛУГ








1926
МЕНСК

ЛІПЕНЬ

№ 7

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопіс.

II год выданьня | Ліпень 1926 г. | № 7



## Да ўраджаю восені трэба рыхтавацца зарані.

З раньняй вясны да позьняй восені сярод сялянства праводзяцца розныя кампаніі, якія ставяць сваёй мэтай пры цэлым шэрагу мерапрыемстваў Савецкай улады дасягнуць найбольш хуткага разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

Так, кожны год у нас бывае рэгістраваньне палепшанай жывёлы, праводзяцца выстаўкі па жывёлагадоўлі, садоўніцтву, палявой гаспадарцы; прэміруюцца лепшыя гаспадаркі сялян, закладваюцца агрономамі ў сялян паказальныя вучасткі, вылучаюцца культурныя гаспадаркі, організуюцца сяляне-дасьледчыкі і г. д.

Гэтым шляхам пры розных прэміях, ільготах, дзяржаўных крэдытах і г. д. наша сельская гаспадарка аднаўляецца і будзе паляпшацца далей. Для большай выразнасьці дадам толькі адзін прыклад, які ўплыў на сельскую гаспадарку можа мець плянавая дапамога Дзяржавы.

Так, за час вайны і рэвалюцыі на Беларусі амаль зусім зьвёўся лубін, які зьяўляецца найлепшым зялёным угнаеньнем для пескавой глебы. У 1920-1921 г. сяляне ўжо амаль ня сеялі больш лубіну, бо ня было насеньня. Але ў 1922 г. Наркамзем закупіў у Новазыбкаўскім павеце 22 т. пудоў лубіну. Лубін зьявіўся на рынку.

Далей сталі даваць яго ў крэдыт, за пасеў выдаваць прэміі, даваць ільготы на с.-г. падатак і г. д.

У выніку гэтага пасевы лубіну сталі значна шырыцца. У 1925 г. ўжо плошча яго па БССР дасягае 41,821 дзес., або 1,7% ад усіх засеваў.

У гэтым-жа годзе лубін пашоў яшчэ больш шырока. Па колькасьці раскупленага насеньня можна думаць, што яго плошча павялічыцца да 50-55 т. дзес. (на 25-30%). Мала таго, ў гэтым годзе ўсё *проданае насеньне лубіну* (33.546 пуд.) *было загатавана на нашым мясцовым рынку.*

Такім чынам, адноснае спрыяньне Дзяржавы пашырэньню лубіна пры агрономічнай дапамозе праз 4 гады дало вельмі значныя вынікі.

Падобнае-ж значэньне маюць і ўсе пералічаныя мерапрыемствы Наркамзема для сельскай гаспадаркі (*прэміраваньні, конкурсы, выстаўкі, „Дзень Сьвята Ураджаю“* і г. д.).

Але пра *„Сьвята Ураджаю“* трэба сказаць больш. Яно праводзіцца ў нас ўвосень 12-14 кастрычніка, калі селянін бачыць пэўныя вынікі сваей працы. Але ці добра гэты час: мо' надта позны, ці не варта было-б перанесьці яго тыдні на два раней і г. д. Адным словам, у сьвяткаваньні „Дню Ураджая“ шмат аб чым трэба зарані падумаць.

Таксама важна, дзе праводзіць сьвяткаваньне „Дню Ураджая“—у раёнеці мо‘ па сельсаветам; адзін дзень ці два-тры; ці паказваць на выстаўках усе галіны гаспадаркі, ці вылучаць якую-небудзь адну, дзьве і г. д.

Усё гэта ў першую чаргу цікавіць больш самых організатараў. Сялянству-ж, асабліва сялянам-дасьледчыкам, культурнікам, сябром с.-г. гурткоў, розным клюбам таксама цікава, бо ім трэба зарані вылучаць экспанаты[1]), трэба затым весьці назіраньні над сваімі палепшаньнямі і ўсім, што зроблена новага ў гаспадарцы.

Сялян-жа дасьледчыкаў у нас не так і мала, хаця організоўваць іх пачалі нядаўна. Праца ў іх вядзецца, і яны шмат што могуць паказаць на выстаўках у „Дзень Ураджаю“. Напрыклад, у гэтым годзе толькі агрономы заклалі паказальных вучасткаў звыш чым у 3000 гаспадароў! Большая частка з іх у бліжэйшы час стане сялянамі-дасьледчыкамі, культурнікамі. А ёсьць сяляне, якія ў сваей працы больш цесна зьвязаны з часоп. „Плуг“. Але ўсё гэта будзе толькі павялічаць агромністую армію бліжэйшых памоцнікаў агрономаў, або апорныя пункты дасьледчых станцый.

Таксама, шмат сялян ужо вядуць выразна дасьледчую працу ці вельмі карысную агрыкультурную справу.[2]) Іх праца і іх роля ў адбудове сельскай гаспадаркі ня можа ўжо ацэньвацца толькі як праца добрага і сьвядомага гаспадара; гэтыя сяляне—*ў большасьці найцікавейшыя наватары і бунтары для старой вёскі: яны крок за крокам ідуць да культурнай і даходнай гаспадаркі, якая будуецца на соцыялістычных прынцыпах.*

Удзел такіх сялян у выстаўках ці сьвяткаваньні „Дню Ураджая“ бязумоўна павінен быць самы актыўны, як неабходны ўдзел і ўсіх іншых сялян, якія нават і экспанатаў ня будуць мець.

Выстаўка, якая звычайна бывае ў „Дзень Ураджаю“, шмат чаму можа навучыць і так.

Вядома, таксама будзе цэнна выявіць у „Дзень Ураджаю“, чаго дасягнулі нашы шматпольнікі, пасёлкаўцы, арцелі, камуны. Усе яны праўда нядаўна пачалі весьці гаспадарку па савету агронома ці пачытаўшы кнігу, але шмат хто з іх і цяпер можа быць добрым прыкладам.

На выстаўках усе экспанаты будуць аглядацца камісіяй, каб лепшыя з іх прэміраваць.

Дык будзем рыхтавацца з вясны да ўраджаю восені.

**С. Тупяневіч.**

[1]) Аб гэтым падрабязна напісана ў час. „Плуг“ № 7 1925 г., старонка 37.

[2]) Я. К. Мароз у Фатыні, А. Сецько ў Капаткевічах, Г. Шасьціткa у Полаччыне і інш.; або зусім маладыя яшчэ гаспадары сяляне С. Сялюкін, (Межа), М. Тарасенка (Магілеўшчына), А. Карнейчык (Пуховічы) і г. д.

# Палявая гаспадарка

## Сейце лубін у аржоньні.

Лубін, як угнаеньне, у сельскай гаспадарцы мае па некаторых акругах Беларусі вялікае значэньне. Гэтымі акругамі зьяўляюцца Менская, Слуцкая, Бабруйская і Барысаўская. Усяго ў 1925 годзе па азначаных 4-х акругах было засеяна лубінам 40.847, дзес. і гэта плошча павялічвацца будзе штогод. Гэта і зразумела, бо пры невялікай колькасьці жывёлы ў сялянства, мы ня можам здаволіць гноем усяе патрэбнасьці сельскае гаспадаркі ва ўгнаеньні; штучнага-ж угнаеньня мала, ды яно і дарага каштуе. Лубін, як зялёнае ўгнаеньне, зьяўляецца найлепшым.

Зараз трэба адзначыць адну акалічнасьць, што лубіну на ўгнаеньне мала сеюць у аржоньні. Але ў гэтым напрамку мы маем ужо вельмі ўдалыя прыклады, як у сялян, так і на дасьледчых станцыях; толькі няма яшчэ масавага пашырэньня пажніўнага лубіну ў сялянскай гаспадарцы.

Між тым, каб найлепш скарыстаць плошчу з-пад жыта і скарыстаць цяплыню і сьвет сонца, дык вельмі патрэбна сеяць лубін у аржоньні.

Пры сыстэме, калі мы ў адзін год здымаем два карані з аднаго поля, пасеў пажніўнага лубіну, як і сэрадэлі, павінен займаць галоўнае месца. Мы павінны ў першую чаргу забясьпечыць нашы выпаханыя глебы спажыўнымі матар'яламі і таму пажніўны лубін будзе найбольш карысным.

Насеньне лубіну ў некаторых сялян, а таксама на складах Цэнтрземскладу і с.-г. коопэрацыі засталося ад вясеньняга севу і з гэтага боку перашкод ня будзе.

З моманту прыборкі зімовага збожжа ці ячменю мы маем шмат часу, за які лубін пасьпявае значна разрасьціся. Каля 15—25 ліпеня жыта і ячмень ужо прыбіраюцца, то трэба зараз-жа, каб ня высушваць поля, узараць яго і пасеяць лубін. Як вырабляць глебу і сеяць лубін у аржоньні досыць зразумела і добра высьветлена ў артыкуле В. П. Жывана „Пажніўны і падсеўны лубін", які надрукаваны у № 5 „Плуга" за 25 г.

За 2—2½ месяцы разьвіцьця пажніўнага лубіну да першых замаразкаў нарастае зялёнае масы лубіну 1.000—1.300 пуд. Гэта ўгнаеньне па сваёй якасьці ня ўступае гною, а на лёгкіх пескавых глебах і перавышае ўплыў яго.

Калі-ж мы падлічым выдаткі на пасеў лубіну (напрыклад, насеньне 15 п.—12 руб. (па 80 к. у чэрвені), выраб глебы 6 р.; усяго

18 руб.) і прымем сярэдні ўраджай сырое масы лубіну за 1.200 пуд., дык будзем мець па 1,5 кап. за пуд сырой масы лубіну на полі. Гэта зусім нядорага.

У адным толькі насеньні лубіну мы ўносім у глебу больш ½ п. чыстага азоту, што раўняецца 4 пудам салетры.

Пры нашым малазямельлі вялікая вартасьць пажніўнага лубіну яшчэ і ў тым, што ён не патрабуе асобай плошчы на полі. Поле з-пад жыта ці ячменю да наступнага году ўсёроўна будзе пуставаць, а засеяная лубінам гэта плошча дасьць вялікую карысьць. Пасьля лубіну добра расьце бульба, грэчка, авёс і інш. с.-г. расьліны, якія значна павялічваюць ураджай.

Дык не забудзь, кожны гаспадар, пасеяць лубін у аржоньні.

**М. С.**

# Як падрыхтаваць аржоньне пад бульбу.

Калі ў гаспадарцы гною мала, то бульбу можна сеяць у аржоньні пасьля лубіну. Дзеля гэтага, як толькі прыбярэцца з поля жыта, аржоньне трэба заараць і пасеяць у той час лубін. Лубін да восені добра ўрасьце і дасьць шмат зялёнае масы, якая і будзе ўгнаеньнем. На зіму яго трэба пакінуць не зааранным. За зіму на полі зьбярэцца шмат сьнегу і вясной нашы пескавыя глебы ня будуць адчуваць нястачы вільгаці.

Я ў гэтым годзе пасадзіў бульбу на лубіне, які сеяў летась у ліпені м-цы. Другі кавалак аржоньня таксама ўзараў у ліпені і пасеяў бульбу, але бяз лубіну. Цяпер відаць, што бульба на лубіне выглядае больш цямнейшай і паказвае на добры ўраджай.

Скарыстайце, сяляне, маю практыку і на будучы год атрымаеце добры ўраджай бульбы бяз гною.

Сел. **А. Карнейчык.**

(Сарачынава, Меншчына, Пухавіцкі раён).

# Карыстайцеся фосфарытам, як угнаеньнем.

**Фосфарыт багат фосфарам. Падзолістыя глебы лепш выкарыстоўваюць фосфарыт. Прыбаўка ўраджаю ад фосфарыту можа быць раўнай гною. Фосфарыт добра кампаставаць з торфам.**

Калі пры вядзеньні гаспадаркі кожны гаспадар імкнецца зьняць два каласы там, дзе раней рос адзін, то ён прымушан зьвярнуць асаблівую ўвагу на танныя фосфарыты, ці фосфарытную муку.

Фосфарыты—фосфарнае ўгнаеньне, якое атрымоўваецца ад памолу асобных каменьняў—фосфарытаў. Яны знаходзяцца ў зямлі ў выглядзе выкапняў. Такія каменьні-фосфарыты маюцца ў губэрнях *Смаленскай*, *Разанскай*, *Арлоўскай* і інш., а ў нас пакуль што найдзены ў Калінінпічыне. Фосфарыты характарызуюцца тым, што ў іх ёсьць шмат вапны і фосфару (ад 12 да 38 проц.). Бяда толькі ў тым, што на звычайных глебах бяз падрыхтоўкі яны даюць мала карысьці. І гэта ад таго, што фосфар у фосфарытах цяжка прымае такую форму, у якой ён можа быць прыняты карэньнямі расьлін.

Дзеля таго, каб фосфарыты зрабіць больш карыснымі на звычайных глебах, іх *перарабляюць у супэрфосфат.*

Робіцца гэта на асобных супэрфосфатных заводах. Спачатку фосфарытныя каменьні мелюцца, прасейваюцца на сітах з дробнымі дзіркамі, а потым апрацоўваюцца сернай і салянай кіслатой.

Па ўсяму абшару СССР выраб супэрфосфату і іншага фосфарытнага ўгнаеньня дасягае 1/2 мільёна пудоў у год, а патрэба ў фосфарных угнаеньнях можа аказацца ў некалькі разоў болей у параўнаньні з даваенным часам. Такая-ж самая нязначная колькасьць здабываецца ў нас тамасаўкі і ўгнаеньня з касьці.

Вядома, здавольніць фосфарны голад глебы ў будучым можна выключна фосфарытамі. Па дасьледаваньню камісіі пры Ціміразеўскай Акадэміі на ўсёй плошчы СССР знаходзіцца больш 200 мільярдаў пудоў танных фосфарытаў.

Ці можам-жа мы абыйсьціся фосфарытамі звычайнага памолу, і якія дзеля гэтага ў нас ёсьць магчымасьці? У нас ёсьць такія глебы, якія ўладаюць здольнасьцю скарыстоўваць тую форму фосфару, якая знаходзіцца ў фосфарытах. Такімі глебамі трэба лічыць падзолы, пескавыя глебы, з якіх вымыта вапна, калі і інш.

На такіх глебах фосфарыты зьяўляюцца вельмі каштоўным ўгнаеньнем. Дзякуючы вялікаму зьмяшчэньню ў сабе кальцыя, яны надаюць воранаму слою глебы дробна-глыбкавую пабудову, робяць яго больш ліпкім і захоўваюць глебу ад вымываньня вапны калія і інш.

Шматгадовыя досьледы паказваюць, што калі на такіх глебах замест супэрфосфату ўнесьці трайную колькасьць фосфарытнай мукі (40 пудоў на дзесяціну), дык пры спагадных умовах кожны пуд мукі дае лішку 1 пуд жыта.

Досьледы прафэсара Пранішнікава далі такія вынікі на пусташы значна падзолістай глебе:

| | | |
|---|---|---|
| фосфарыту . . . | 36 п., прыбаўка ўраджаю на дзесяціну | 42 пуд. |
| тамасаўкі . . . | 24 „ „ „ „ | 38 „ |
| гною . . . . . | 2400 „ „ „ „ | 45 „ |

Калі цану фосфарытаў лічыць 40 кап. за пуд, тамасаўкі 1 руб. 23 кап. гною 2 кап., дык угнаеньне ў першым выпадку абойдзецца ў 14 руб. 40 кап. (40×36), у другім—29 руб. 52 кап. (1 руб. 23 кап.×24), у трэцім—48 руб. (2×2400).

Такую-ж карысьць можа даць фосфарыт і на глебах кісла-тарфяных і балотных.

Дзеля іх больш карыснымі будуць фосфарыты, чым супэрфосфат ці тамасаўка. Супэрфосфат — угнаеньне кіслае і ўносячы яго мы толькі павялічваем кісласьць глебы, між тым, фосфарыт—на кіслых глебах будзе добра распушчацца, а фосфар яго прыме тую форму, якая патрэбна дзеля расьлін.

На такіх глебах, дзе фосфарыты ня могуць быць скарыстаны, дзе глеба больш прыбліжаецца да нормальнага тыпу, як суглінкі ды сярэднія супясі, мы маем вельмі каштоўную расьліну—лубін. Уносячы пад лубін фосфарыты, мы ўзбагачваем глебу ня толькі азотам, але і даступным дзеля расьлін фосфарам. Такі-ж самы ўплыў на фосфарыты можа рабіць і грэчка.

Урэшце, трэцяя магчымасьць скарыстаць фосфарыты кампоставаньнем. Зьмешваючы загадзе махавы торф, якога ў нас таксама мно-

га, з фосфарытамі мы пераводзім фосфар фосфарытаў у карысную дзеля расьлін форму.

Такім чынам, фосфарыты могуць зьявіцца крыніцай фосфару.

Вельмі пажадана, каб нашыя дасьледчыкі—сяляне ў далейшым вялі працу ў гэтым напрамку. *Фосфарыт-камень можа даваць замест сябе зярно.*

Дз. Пракапенка.

# Вывозка і заворваньне гною на папар.

У нас сяляне вельмі дрэнна абыходзяцца вывозячы гной на папарнае поле. Вывязуць яго, скінуць маленькімі кучкамі і ён ляжыць так дні 3, а то і па цэламу тыдню. Гной гэты, як стаіць сухая пагода высыхае і траціць сваю цэннасьць. Таксама, як пойдзе дождж, то сокі гною ўсе абмыюцца. Калі пасеюць тут жыта, то на другі год на полі ня роўная ніва: дзе кучка ляжала, там жыта буйнейшае і не так скора пасьпяе.

Сабраўшы такое жыта і абмалаціўшы на насеньне, бывае шмат ня ўсхожага.

Вось, што робіць неправільная вывазка гною на папар. Як-жа яго трэба вывозіць? А так. Як толькі вывезеш на поле гной, зараз-жа яго трэба раскідаць і заараць.

Вывозіць гной трэба ў сырую і ціхую пагоду, або вечарам і раніцаю, а ў дзень заараць. Заворваць трэба на пескавой глебе глыбей, а на глiністай мялчэй.

Пасьля заворкі поле трэба ў адзін сьлед забаранаваць. Я рабіў так. На папар вывез гной у адзін дзень, у той-жа дзень адну частку яго заараў, а другой часткі не заворваў. Яна засталася ляжаць 3 дні. Гэта было ў 1924 г. пад жыта. Кавалак зямлі быў аднолькавай якасьці, а сабраў я ўраджай у $1\frac{1}{2}$ разы большы з таго кавалку, дзе гной не ляжаў.

Вывад такі, што як вывез гной, так і заворвай, а то $\frac{3}{4}$ яго прападае дарам, калі ён паляжыць у кучках.

Сяляне, вывозячы гной старайцеся як мага хутчэй яго заараць. Ад гэтага вы падвоіце свой ураджай.

Прабуйце зрабіць гэта на полі і вы відавочна ўбачыце карысьць.

А. Карнейчык.

(Сарачынава, Меншчына).

# Падвойны пяцёхпалёвы севазварот.

**Кожны добры севазварот павінен забясьпечыць гаспадарку кормам і даваць рыначныя прадукты. Нашы севазвароты павінны спрыяць жывёлагадоўлі—мець канюшыну, бульбу, буракі, а на рынак—лён.**

Пры абраньні таго ці іншага севазвароту прымаюць пад увагу прыродныя асаблівасьці данае мясцовасьці, якасьць глебы, клімат, патрабаваньне рынку, наліччa рабочай сілы і інш. Усім вядома, што мы атрымаем большую карысьць не ад продажы збожжа ці бульбы, а тады, калі мы прапусьцім іх цераз жывёлу. Гэта значыць, што на рынак цяпер схадней вывозіць прадукты жывёлагадоўлі.

Вось зачым севазварот мы павінны будаваць так, каб ён спрыяў разьвіцьцю жывёлагадоўлі і разам з гэтым яго можна было-б скора

зьмяніць, калі рынак пачаў-бы патрабаваць тэхнічныя ці іншыя расьліны. Адным з такіх севазваротаў і можна лічыць падвойны пяцёхпалёвы.

| 1 зьмена | 2 зьмена | 3 зьмена | 4 зьмена | 5 зьмена |
|---|---|---|---|---|
| Жыта з сэрадэляй | Бульба | Лён | Авёс | Папар |
| Жыта | Караньплоды | Ярына з канюшынай | Канюшына 1 г. | Канюшына 2 г. |

Інакш кажучы, гэта дзесяцёхпалёвы севазварот, які зьведзены ў пяцёхпольле з такім чаргаваньнем расьлін: 1) *папар заняты* ці чысты, 2) *жыта*, 3) *караньплоды*, 4) *ярына з канюшынай*, 5) *канюшына 1 г.*, 6) *канюшына 2 г.*, 7) *жыта з сэрадэляй*, 8) *бульба*, 9) *лён* і 10) *авёс*. Лепшага чаргаваньня расьлін, як у гэтым севазвароце, і прыдумаць цяжка. Тут кожная расьліна на сваім месцы, а галоўнае, севазварот правільны з таго боку, што ніводная зярновая расьліна ня сеецца пасьля зярновай. Канюшына сеецца на лепшым для яе месцы і праз год пасьля асыпных. Самым лепшым месцам пад лён лічыцца канюшынішча і бульбянішча. Пасьля бульбы, хоць менш бывае валакна, але яно выходзіць ле шай якасьці. Тут-жа лён і сеюць пасьля бульбы.

Цяпер паспрабуем падлічыць, колькі і якіх прадуктаў атрымаем пры гэтым севазвароце тады, калі ў гаспадарцы маецца толькі 5 дзес.; ураджай жыта лічым 60 пуд. з дзес., аўса і ячменю таксама 60 пуд., бульбы 800 пуд., караньплодаў 2.000 пуд., канюшыны 200 пуд., лёну-валакна 20 пуд. і семя 20 пуд.

| ПЛОШЧА | Ураджай з дзес. | Цана 1 пуд. | | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| | Пуд. | Руб. | К. | Руб. |
| 1 дзесяціна жыта . . . . | 60 | 1 | 20 | 72 |
| 2 „ ярыны . . . . | 60 | 1 | 20 | 72 |
| $^1/_2$ „ бульбы . . . . | 400 | — | 30 | 120 |
| $^1/_2$ „ караньплодаў . . | 1.000 | — | 15 | 150 |
| 1 „ канюшыны . . . | 200 | — | 50 | 100 |
| $^1/_2$ „ лёну-валакна . . | 10 | 6 | — | 60 |
| $^1/_2$ „ „ семя . . . | 10 | 1 | 50 | 15 |
| $^1/_2$ „ выкі ў папары . . | 100 | — | 50 | 50 |
| Усяго . . . | — | — | — | 639 |

Цэны я браў якраз такія, якія былі зьмешчаны ў № 1 „Плуга“ ў артыкуле“ Чатырохпалёвы севазварот“. У параўнаньні з тым 4-х—палёвым севазваротам гэты пяцёхпалёвы дае з 5 дзес. больш даходу на 121 руб. 50 кап.

Гэты севазварот таксама дае месца і лёну. Лепшым-жа я лічу гэты севазварот для раёнаў жывёлагадоўлі. Рознастайны корм, як караньплоды, канюшына, моцныя кармы і г. д., даюць магчымасьць дабіцца ад кароў высокае малочнасьці, а бульба можа ісьці на корм сьвіней. Да таго-ж гэты севазварот можна хутка зьмяніць. Так, усю другую зьмену можна заняць бульбаю; пасьля бульбы замест ярыны ці лёну можна пасеяць жыта, пад якое можна падсеяць канюшыну; замест лёну можна ўвесьці пасевы бабовых (гарох і інш.). Адным словам, гэты севазварот даволі гібкі.

Многа ёсьць севазваротаў, якія падыходзяць толькі да некаторых мясцовасьцей; але ёсьць і гэткія севазвароты, якія падыходзяць да большасьці раёнаў Беларусі. Гэты севазварот з невялікімі зьменамі можна таксама прыстасаваць да любое мясцовасьці. Там-жа, дзе не расьце канюшына, гэты севазварот можна ўвесьці, замяніўшы канюшыну сэрадэляю ці іншымі пескавымі расьлінамі. Вось загэтым я і параіў-бы гэты севазварот тым гаспадаром, якія пераходзяць на пасёлкі ці заводзяць шматпольле.

Сел. **Янка Карзон.**

(Вёска Клешава, Случчына).

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Мой досьлед з угнаеньнем пад бульбу.

У 1923 годзе пры земляўпарадкаваньні я атрымаў 5 дзесяцін пахаці адрубным вучасткам. Глеба супяшчаная і падзолістая.

На гэтым вучастку я завёў пяціпольны севазварот праф. Даярэнкі, з занятым папарам і засевам кармовых траў і бульбы.

Бульбы я штогодна засяваю паўдзесяціны. К пасеву бульбы ў 1925 г. я ўзараў глебу з восені 1924 г. на глыбіню 3-х вяршкоў. Вясною, калі глеба прасохла, я яе добра пабараніў. Ўвосень вучастак я падзяліў на чатыры роўных часткі (па 1/8 дзесяціны). Адну я частку добра ўгноіў конскім гноем, а на другую частку палажыў кароўяга гною. Трэцю частку угноіў попелам, які сабіраў зімою. Попелу ў мяне сабралася каля 10-11 пудоў. Гэты попел я падсяваў толькі ў тую баразну, у якую бабы кідалі бульбу.

Чацьверты вучастак я думаў ўгноіць калійнай сольлю, але к часу засева я ня мог раздабыць гэтага ўгнаеньня; прышлося засяваць бульбу на пустым вучастку.

Уся бульба была засеяна ў два дні (ў другой палове траўня), калі добра красуюць сады (гэта ў нашай мясцовасьці сялянская прымета).

За тры дні да засеву бульба была вынесена з паграба і рассыпана ў пуні роўным слоем, дзе яна прасохла і стала даваць добрыя расткі. За чатыры дні да засева бульбу перагледзелі, гнілую і дробную паадкідвалі; а буйную і здаровую рэзалі толькі на дзьве часткі.

Сеялі бульбу сялянскім спосабам, цераз адну баразну пад плуг; радок ад радка быў вяршкоў на 8-10, а бульбіна ад бульбіны ў радкох на 10-12. Цераз тры дні я ўсю бульбу пабаранаваў у два сьляды.

К таму часу, як стала ўзыходзіць бульба, я раздабыў 30 проц. калійнай солі і рассеяў яе на чацьвертым, вучастку паверх, па разьліку 18 пудоў на дзесяціну. Хоць агрономы і раяць рассяваць калійную соль загадзя, тыдні за тры да засева расьліны, але я на спробу рашыў зрабіць так. Пасьля рассева калійнай солі, ўсе чатыры вучасткі яшчэ раз добра пабараніў. Да таго часу, як бульба ўся стала красаваць, я тры разы асыпаў яе конным асыпнікам. Вось ў гэтым і быў увесь мой догляд за бульбай.

З пачатку росту бульбы можна было назіраць, што на гнаі яна расьце лепш, асабліва на конскім, а слабей за ўсё быў вучастак з калійнай сольлю. Калі-ж пашлі дажджы, то вучасткі з сольлю і попелам хутка сталі апраўляцца, і к часу красаваньня дагналі тыя вучасткі, на якіх быў гной. Пад восень бацьвіньне на бульбе на гнаі стала сохнуць, а на попеле і калійнай солі было зялёным да самых замаразкаў.

Капалі бульбу плугам у кастрычніку. Пры гэтым я запрымеціў, што *самая лепшая бульба вырасла на вучастку з калійнай сольлю, яна была буйная і чыстая.* Харошая, але крыху драбней была бульба

на попелу. На кароўім гнаі была буйная, але дзякуючы даджліваму лету вельмі брудная і несмачная. Хужэй за ўсю бульба была на конскім гнаі. Яна хоць і вырасла буйная, але была брудная і папсована драцянымі чарвямі; яе прышлося ссыпаць асобна і стравіць з восені.

К майму жалю, зважыць бульбу мне ня прышлося, бо прыборка ішла пасьпешна з-за апаскі дажджу. Але ўсё-ж запрымечана, што з вучасткаў па калійнай солі і па попелу сабрана бульбы ня менш чым па гною. Усяго-ж бульбы з паўдзесяціны, думаю, было ня менш 600 п. Сяляне-ж нашай і суседніх вёсак адзначалі ў сябе недарод бульбы.

Я дзялюся сваім досьледам за тым, што раю сабіраць попел пад бульбу, а таксама не шкадаваць грошай на ўгнаеньне глебы калійнай сольлю. У гэту вясну я думаю ўсю сваю паўдзесяціну ўгноіць калійнай сольлю, бо попел я ўжо рассеяў пад проса.

Настаўнік **Л. Чалоўскі.**

# Ары папар рана з вясны будзеш з ураджаем.

(*З уласнае практыкі*).

Да 1924 году мы большай часткай аралі папар у ліпені м-цы. Вядома, што ўраджай быў вельмі кепскі. Прычыны гэтаму былі такія: 1) узараўшы папар у ліпні, глеба добра не выправала, бо ў канцы жніўня браліся за пасеў; 2) глеба бывае вельмі зьбіта жывёлай, ад гэтага вільгаць у глебе ня трымаецца; 3) на позным папары разводзіцца шмат сарнякоў, якіх жывёла ня есьць, ды яны і высмоктваюць дарэмна спажыўныя сокі, якія патрэбны для расьлін. Жывёлу на папары ніколі не накорміш. Бачычы гэта я задаўся мэтай падняць папар хаця палову ў маі м-цы. Сказана—зроблена. Да 15 мая палова папару было паднята, хаця гэта і ня лёгка было зрабіць, бо я сустрэў шмат перашкод з боку насельніцтва, якое маю спробу з раньнім папарам забараняла праводзіць; мне казалі: „А д е мы будзем пасьвіць авечак?“

Праз паўтара м-цы, як стаў папар пакрывацца пырнікам, я яго пабаранаваў, а потым яшчэ раз за два тыдні да пасеву.

У сярэдзіне жніўня я пасеяў жыта таксама раней усіх, бо глеба для пасеву была падрыхтована ў мяне, а ў суседзяў у гэты час ішло баранаваньне. Поплеч сусед паклаў гной на сваю палоску і кажа: „Пабачым, якое будзе ў цябе жыта біз гною. Калі гноем удабраем, дык хоць у аднавор сей, усё роўна вырасьце добрае“, мяркуе селянін. На другі год вясной мая палоска нічым не адрозьнівалася ад угноснай палоскі майго суседа. Калі пасьпела жыта, таксама ня было розьніцы (толькі колас майго жыта быў буйнейшы). Я ўпэўнены, што я і намалаціў болей чым мой сусед.

З таго часу мы заўсёды аром увесь папар не пазьней 15 чэрвеня, пасьвіць-жа жывёлу прыходзіцца ў лесе, а коняй на канюшыне, якой сеюць у нас даволі шмат. Вось чаму я клічу, каб ня было той вёскі, дзе папар не падымаўся-бы да чэрвеня м-ца. Такім чынам, можна ўзмацніць сваю гаспадарку.

Сел. **Я. М. Савіцкі.**

(В. Шмакі, Магілеўшчына).

# Досьлед з канюшынай.

(*З 3-х гадовага вопыту.*)

*Пад якое збожжа лепш падсяваць канюшыну.* На працягу трох год я раблю досьледы з пасевам канюшыны па жыце і ярыне, каб высьветліць пытаньне, дзе яна лепш удаецца. Раблю я гэта так: у жытнім полі пакідаю вучастак для аўса або пшаніцы. Поле ўгнойваецца аднолькава. Раньняй вясной па жыце сею канюшыну, а пакінуты вучастак вырабляю і сею на ім авёс або пшаніцу, за тым барaную і зараз-жа падсяваю канюшыну і зноў праходжу бараной у адзін сьлед. Канюшына па жыце ўсе тры гады была лепшай. Гэта так ня толькі ў мяне, але ў шмат грамадзян тае мясцовасьці, дзе сеюць канюшыну. Ды і схадней сеяць канюшыну па жыце. Жыта раней прыбіраецца з поля і канюшына пачынае хутка расьці. У мяне, напрыклад, маладая канюшына заўсёды к восені пачынае красаваць і яе кашу частку на сена, а частку для падкорма скаціны. Скошаная канюшына да марозаў пасьпявае адрасьці. Касіць канюшыну трэба так, пакідаючы ½ вяр. або вяршок ад зямлі, каб ня зрэзаць шыек. Ад пасеву па яравым ніколі нельга атрымаць маладой канюшыны на скос, а лішняя сотня пудоў корму ў гаспадарцы ніколі не памяшае. Адзначу, што так скошаная канюшына на другі год расьце лепш, чым канюшына, якая страўлена скацінай. Памойму скаціну ні восеньню, ні вясной на канюшыннае поле пускаць ня варта. Вясною на наступны год канюшыну абавязкова трэба пабаранаваць, пры чым зубы бараны павінны быць вострыя. Такім чынам добра ўгноенае жыта зьяўляецца лепшай прыкрываючай расьлінай для канюшны.

*Як расьце канюшына па мінэральных угнаеньнях.* Я ўжо пісаў у 4-м нумары часопісі „Плуг“ за 1926 г.; што поле пад жыта ў маёй гаспадарцы ўгнойваецца гноем (2400 п. на дзес.) і тамасаўкай (16-20 п. на дзес.). Аб выніках такога ўгнаеньня чытачы „Плуга“ ўжо ведаюць. Па мінэральнаму ўгнаеньню добра расьце ня толькі жыта, але і наступная за ім канюшына. На канюшынным полі ў мяне ёсьць вучастак у 10 кв. саж., на які тамасаўка пад жыта ня клалася, там жыта ў мінулым годзе было горшае, таксама і канюшына ў гэтым годзе горшая; на ўсім-жа полі, дзе ўнесена тамасаўка, канюшына расьце вельмі добра.

Бачыце, што мінэральнае ўгнаеньне дае карысьць не адзін год, яно павялічвае ўраджай жыта і таксама наступнай за ім канюшыны; затым не шкадуйце 6-7 руб. на куплю мінэральнага ўгнаеньня, унасіце яго пад жыта, сейце па жыце канюшыну і вы будзеце задаволены.

*Час скосу і спосаб прыборкі канюшыны.* Перастаяўшаеся і грубое сена ня вельмі ахвотна есьць скаціна і яно менш пажыўнае. Я кашу ў той час, калі кветкі канюшыны толькі пачынаюць распускацца. Гэта самая лепшая пара для скосу. Сена такой канюшыны ахвотна есьць жывёла. Скасіўшы канюшыну я пакідаю яе ў пракосах на дзень каб яна завяла, на другі дзень драўлянымі віламі асьцярожна пераварачваю на другі бок і на трэці дзень, кладу на козлы. На козлах яна ляжыць да таго часу, пакуль зусім ня высахне. Як канюшына на козлах ужо высахне, я яе больш ужо не растрасаю, а бяру на драбінкі і звожу ў пуню. Усе, хто сее канюшыну і выку абавязкова павінны зрабіць козлы для сушкі гэтых траў. Пры сушцы на козлах трэба працы на палову менш, а таксама і самая пажыўная частка канюшыны,—кволыя лісьцікі,—не абціраюцца ад частага пераварачваньня. На зямлі-ж каню-

шыну высушыць вельмі трудна, яе трэба ўвесь час варочаць. Можна было-б згадзіцца з гэтым, калі-б у час сенакосу добрая пагода стаяла цэлы тыдзень, але гэта бывае вельмі рэдка. Раней 6-7 дзён канюшыну ня высушыш, недасушаная-ж і папаўшая пад дождж канюшына псуецца і траціць сваю вартасьць. На козлах канюшына нічога не баіцца. У мінулым годзе першы ўкос канюшыны папаў пад дажджы і шмат хто скардзіўся, што канюшына сапсавалася і скаціна не ахвотна яе есьць.

У мяне канюшына хоць і стаяла на козлах пад дажджом 10-11 дзён, але вышла як бы высушаная ў добрую пагоду. Пачарнеў толькі верхні слой і я меў з усяго поля чорнага сена 10-15 п., рэшта-ж канюшыны вышла зусім зялёная і бяз паху плесені. Зрабіць козлы не трудна. К двум калам вышынёю $3^1/_2$ арш. прыбіваюцца жэрдкі 4-5 арш. даўжынёю на адлегласьці 7-8 в. адна ад другой. Трэба зрабіць два такіх бакі і саставіць іх разам.

Канюшыну і выку прапаную пасыпаць у пуні сольлю. Раблю я гэта так: прывожу воз канюшынавага ці выкавага сена, складваю яго роўна пры сьцяне пуні і пасыпаю жменей сольлю, далей раблю таксама. На кожны 100 п. сена даволі $1^1/_2$- 2п. солі. Сена, пасыпанае сольлю, калі і не дасушана, ніколі ня спрэе і не паплесьнее. У такім сене ня будзе пылу і не заводзяцца мышы. Напрыклад, выку такім чынам можна захаваць да вясны і мышы ў ёй не завядуцца. Апрача таго, пасыпанае сольлю сена скаціна есьць ахвотней. Даваць соль кожнай скаціне трэба абавязкова, і я прапаную чым даваць ёй лізаць соль, лепш даваць прасоленае сена. Адначасна з гэтым скаціна атрымоўвае патрэбную для арганізма соль, а сена добра захоўваецца. *Пакідаць канюшыну на насеньне лепш 1-га году карыстаньня, але 2-га скосу.* У нашай мясцовасьці другі скос дае насеньня ў 2-3 разы больш першага. Красаваньне 2-га скосу супадае з разьвіцьцём шмяліных гнёзд. У гэты час ні на палёх, ні на сенажацях ужо кветак ня бывае і ўся шмяліная парода ляціць на красуючую канюшыну. Затым той, хто сее канюшыну, павінен спрыяць размнажэньню шмялёў і нераскідваць іх гнёзд.

*Прыборка насеннай канюшыны.* Зжатая і зьвязаная ў снапы канюшына перш прасушваецца на полі, калі добрая пагода, ці каля сьцен гумна, на бэльках і г. д., а калі ідзе дождж то канчаткова яе дасушваюць на ёўні. Малаціць канюшыну можна цапамі ці малатарняй. Цапамі можна толькі адбіць галоўкі, якія трэба сабраць у мяшкі і захоўваць дома ў сухім месцы. Калі за час перахоўваньня галоўкі адсырэлі, іх трэба падсушыць на печцы. Пры гэтым мяшкі з галоўкамі ня трэба класьці на-голую печку, каб не запарыць насеньня, а падлажыць што-небудзь, а лепш так гэта падвесіць над печкай. Калі галоўкі падсохнуць так, што іх можна расьціраць у руках, іх таўкуць у ступе, каб аддзяліць насеньне, а затым ачышчаюць ад мякіны на арфе або на ветры.

Селенін **Б. Шымковіч**

(Дуброўна, Аршаншчына).

# Садоўніцтва

## Ня спазніцеся пасадзіць садовай буйнаплоднай суніцы (клубніцы).

**Клубніцы, або садовыя суніцы ахвотна купляюцца на рынку па 25-30 к. за фунт. Пасадку клубніц трэба зрабіць у сярэдзіне жніўня.**

Увосень 1924 г. Горацкая Дасьледчая Садовая станцыя атрымала на Маскоўскай Воб. Дасьл. Станцыі 26 сартоў буйнаплоднай суніцы. Паміж гэтых сартоў некаторыя маюць эўропэйскую вядомасьць, як Дэйч Эверн, Перамагальнік, Юкунда, дырэктар Юлькэ, Абрыкос-Апроч таго атрыманы цікавыя сарты, як Вікторыя, Рошчынская, Франц.цыя-Расія, Позьняя Леоноль, сьвяты Язэп і інш.

Ад высаджаных у верасьні 1924 г. 10 кусьцікаў кожнага сорту ўлетку 1925 г. атрымана было ад 50 да 100 дзетак, якія былі высаджаны ў пладовы выхавальнік без ніякіх град рад ад рада на 1 аршын і паміж расьлінамі таксама 1 арш. Падкрэсьлім, што плянтацыя садовых суніц павінна быць бяз град (1 арш.×1 арш.) бо кусьцікамі на адным месцы карыстаюцца 5 год і паміж імі трэба весьці конную апрацоўку глебы плянэтам.

У 1925 годзе (у першы год узросту) значнага ўраджаю ня было, але асобнасьць кожнага сорту па ягадзе, лісту і г. д. можна было адзначыць. Вяліся нагляданьні за узростам, за пасьпяваньнем ягад і г. д.

Паміж іншым выявілася, што сарты з нязначнай плошчай лісьця даюць лепшыя ўраджаі і буйнейшыя ягады (напр., Юкунда, Перамагальнік).

Перазімавала плянтацыя ў 1925-6 г. бяз усякага пакрыцьця (лісьцявое пакрыцьцё ня шкодна). Першыя ягады адзначаны былі 14-16|VI у Рошчынскай; ягады сярэдняй велічыні, але вельмі смачныя і з добрым пахам.

Зараз, калі пішу гэтыя радкі (1-VII), ураджай ягад яшчэ цалкам ня зьняты; за гэтым не магчыма чытачом „Плуга“ паказаць матар'ялы адносна таго, які сорт даў найбольшы ўраджай ягад з кусьціка.

Нашы назіраньні пераканалі нас у тым, што лепшымі павінны быць наступныя сарты: *Дырэктар Юлькэ, Юкунда, Перамагальнік* (Siger), *Рошчынская, Сьвяты Язэп, позьняя Леоноль.*

Мы ўпэўнены, што ў мясцох Беларусі гэтыя сарты выявяць сваю добрую якасьць. Магчыма, што на лёгкіх глебах лепш пойдзе іншы асортымэнт, як Абрыкос, каторы ў Нямеччыне дае на пескавых глебах вельмі добры ўраджай.

Нашы жаданьні, каб чытачы „Плуга“ з сярэдзіны жніўня (VII м.) пачалі садзіць вельмі цэнныя сарты садовых суніц. Гэта ў першую чаргу трэба зрабіць гаспадаркам, якія бліжэй ад гораду (у 10-15 в.), станцыі, і г. д.

Попыт у гарадох і мястэчках на гэтыя ягады вельмі значны. У Горках сёлета цана 1 фунта была 30 кап.

Упэўнены, што добрыя сарты клубніц будуць карысны для ўсякай гаспадаркі. Пекныя кусьцікі буйнаплоднай суніцы з вялізнымі чырвонымі ягадамі—пацеха ня толькі для дзяцей і моладзі, але прыемная страва і для дарослых.

У Нямеччыне і Амэрыцы гандлёвая культура клубніц вельмі пашырана. Там гэта найбольш любімая ягада паміж жыхарства. Дзіцячыя клюбы, садовыя таварыствы з вялікай увагай адносяцца да культуры клубніц, а Садовыя ўстановы замежных краін штогод выпускаюць у продаж новыя сарты. Заўважым, што сёлета ў абмяжованым ліку сажанцы клубніц лепшых сартоў будуць адпускацца ўстановамі садоўніцтва пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі ў Горках (па 3 руб. за сотню).

**М. Бурштэйн.**

---

# Савецкая садовая гаспадарка Лютня.

## Садова-гародныя базы ёсьць культурныя цэнтры па акругах.

Савецкая гаспадарка Лютня (Мсьціслаўскага р., на Калінішчыне) знаходзіцца ў 2-х кілём. ад гораду Мсьціслаўля і на беразе р. Віхры, што цячэ ў р. Сож і ў 20 кілём. ад чыгуначнай стан. Ходасы.

Пад гаспадаркай лічыцца 102,5 дзес. зямлі, якая па ўжыткам разьмяркоўваецца так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| пад гародам . . . | 1 д. | пад садам . . | 11,5 дзес. |
| „ пахацьцю. . . | 14,75 „ | „ лесам . . | 40 „ |
| „ сенажацямі . . | 20 „ | „ няўдобіцаю . | 15 „ |
| „ сядзібай . . | 448 кв. с. | | |

Ня многа пахаці, значны сад і вельмі добрая глеба спрыяюць інтэнсыўнай садовай гаспадарцы. Пры блізасьці да горада Мсьціслаўля ў Лютні магчыма організаваць акруговую насенна-гародную і садовую гаспадарку. Неабходнасьць організацыі гэткай гаспадарцы ў Калінішчыне тлумачыцца вялікім запатрабаваньнем насельніцвам на прышчэпы яблынь, груш. сьліў, вішань, ягадных кустоў, асабліва гэта прыметна ў сувязі з земляўпарадкаваньнем і ўзростам сельскае гаспадаркі.

Узрост попыта с.-г. насельніцтва на насеньне (гародніны і кармовых расьлін) таксама патрабуе зьвярнуць на гэта ўвагу.

Блізасьць Лютні да г. Мсьціслаўля дае магчымасьць купляць там гной для гаспадаркі, а прыгараднае насельніцтва і бліжэйшыя вёскі даюць шмат беспрацоўнай моладзі, якія знаходзяць працу у гаспадарцы Лютня. Лепшы пасадачны матар'ял Лютня можа даставаць у Горках. Такім чынам, шмат што спрые разьвіцьцю культурнай гаспадарцы ў Лютні.

Пад садовым выхавальнікам раней мяркавалася мець 8 дзес. са штогодняй з кладкай 1 дзес., але прымаючы пад увагу попыт насельніцтва на прышчэпы і магчымасьці гаспадаркі, пад выхавальнік сталі закладваць па 2 дзес. з 50.000 дзічак.

Ад гэтага павялічваецца прыбытак на 100 проц., а трата сродкаў на 35-40 проц.

Пад пасеў дзічак выдзяляецца вучастак у 0,5 дзес. Дзічкі ідуць на закладку выхавальніка, а рэшта прадаецца.

Пад гародна-насенныя вучасткі выдзелена 6 дзес. з 6-ці польным севазваротам. У садзе ж падтрымоўваецца 4-х польны севазварот. Пад культурны гарод і ягадныя кустарнікі выдзелена 0 5 дзес. гароду.

Невялічкі вучастак заняты сэлекцыйнымі дзялянкамі. Пры саўхозе маецца паказальная акруговая пасека пчол, (ёсьць і спэцыялісты пчаляр).

Такія буйныя садова-гародныя базы пры пераробцы, с.-г. прадуктаў пажадана мець у кожнай акрузе, бо:

1) праз іх акруговыя цэнтры зімою змогуць праводзіць курсы для садаводаў, гароднікаў і пчаляроў;

2) праз экскурсіі знаёміць с.-г. насельніцтва з усімі інтэнсыўнымі расьлінамі свайго раёну;

3) праз такія цэнтры можна організаваць садаводаў і гароднікаў у раённыя коопэрацыйныя т-вы для пераробкі і збыту прадуктаў.

Напрыклад, у Мсьціслаўшчыне ўжо органі авана Мсьціслаўскае раённае садова-гароднае коопэрацыйнае Т-ва;

4) сувязі з дасьледчай садова-гароднай станцыяй пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі садовая база—Лютня знаёміць насельніцтва з ўсімі дасягненьнямі па інтэнсыўных галінах сельскае гаспадаркі.

Прымаючы пад увагу ўсё пералічанае, можна зразумець, якую ўвагу неабходна зьвяртаць на культурна-паказальныя асяродкі, як з боку акруговых і раённых устаноў, так і сялянству.

Садова-гародныя базы па акругах будуць культурнымі цэнтрамі інтэнсыўных галін нашай сельскай гаспадаркі.

**Л. Калер.**

(Загадчык Садова-гароднага выхавальніку).

---

# Абсьледаваньне садоўніцтва Мсьціслаўшчыны.

**Выбіраць сабе ў сад сарты яблын ці ігруш можна толькі тыя, якія добра растуць у тым раёне.**

Летам 1925 г. я разам з аграномам К. Л. Цахнавічар абсьледавалі садоўніцтва Мсьціслаўшчыны. Абсьледаваньнем мелася на мэце выявіць асаблівасьці росту пладовых дрэў, адзначыць больш трывалыя сарты, а таксама вывучыць тэхніку садоўніцтва гэтага раёну.

Было абсьледавана 8 вялікіх садоў і некалькі малых з агульнаю плошчаю каля 55 гэктараў.

Сады Мсьціслаўшчыны характарызуюцца шматсортнасьцю; там зарэгістравана больш 35 сартоў яблын; сарты пераважна летнія. З іх

толькі некаторыя маюць высокі процант трываласьці. Паказваю лічбы найбольш вядомых сартоў.

| № | НАЗВА СОРТУ | Усяго дрэў | З іх | | З ліку хворых прыпадае ў %% на: | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Здаров. у % | Хворых у % | Антон агонь | Дупліс-тасьць | Ветра-лом | Суха-вярш | Мэхан. пашк. |
| 1 | Антонаўка. . . . | 3425 | 87,2 | 12,8 | 79,5 | 3,7 | — | — | 17,8 |
| 2 | Пуцімка . . . . | 309 | 73,8 | 26,2 | 93,8 | — | — | — | 6.2 |
| 3 | Грушаўка. . . | 10 | 90 | 10 | — | — | — | 10 | — |
| 4 | Белае салодкае. . . | 176 | 50 | 50 | 40,9 | 9,1 | — | 48,9 | 1,1 |
| 5 | Корабаўка. . . | 91 | 84,6 | 13,4 | 43 | — | — | 57 | — |
| 6 | Ружовае . . . | 10 | 80 | 20 | 100 | — | — | — | — |
| 7 | Валошка . . . | 85 | 76,5 | 23,5 | 90 | 5 | — | — | 5 |
| 8 | Пэпін літоўскі . . . | 102 | 57.8 | 42,2 | 79 | 2,3 | — | 4,7 | 14 |
| 9 | Штрэйфлінг . . . | 23 | 74 | 26 | 23,3 | — | — | — | 66,7 |
| 10 | Цітаўка . . . . | 243 | 47,3 | 52,7 | 62,5 | 17,1 | 14,8 | 5,6 | — |
| 11 | Апорт . . . . | 118 | 56,8 | 43,2 | 82,1 | 4 | 8 | 4 | 0,9 |
| 12 | Цынамон. палас. . . | 23 | 87 | 13 | 66,7 | — | — | 33,3 | — |
| 13 | Баравінка . . . . | 70 | 44,3 | 55,7 | 70 | 10 | 12,5 | — | 7,5 |
| 14 | Бабушкіна. . . . | 53 | 90,6 | 9,4 | 60 | — | — | — | 40 |
| 15 | Аркад . . . . | 32 | 47 | 53 | 100 | — | — | — | — |
| 16 | Борзд. плоскае. . . | 17 | 65 | 35 | — | — | — | 66,6 | 33,4 |

Як відаць з паданых лічбаў нашы пашыраныя сарты, як цітаўка, апорт, баравінка і інш. часта хварэюць і апрача таго, плады цітаўкі і апорту ня могуць доўга ляжаць і гніюць нават на дрэве. Другія сарты, як антонаўка, бабушкіна, пэпін літоўскі, пуцімка, штрэйфлінг, цынамонавае паласатае, грушоўка рэвельская, ружовае і корэбаўка даюць вялікі ўраджай і добрыя плады, якія могуць ляжаць доўгі час. Але сорт пэпін літоўскі хоць і дае вялікі ўраджай і дробныя плады, але часта хварэе, асабліва пасьля 25 г. росту; загэтым яго ня варта разводзіць у садох. Пуцімка таксама бывае пашкоджана антонавым агнём, але процант здаровых дрэў у яе значна большы, чым у пэпінкі літоўскай (73,8 проц.).

Антонаўку ў садзе можна разводзіць толькі дзякуючы высокай ураджайнасьці, добрай якасьці пладоў і іх трываласьці. Бабушкіна вельмі добры зімовы сорт па сваёй трываласьці і якасьці пладоў, але позна пачынае даваць плады, што трэба прымаць пад увагу пры закладцы саду. Сарты ружовае, штрэйфлінг, цынамонавае паласатае і грушоўка рэвельская хоць і рэдка сустракаюцца ў садох Мсьціслаўшчыны, але вельмі ўраджайныя і даюць добрыя плады. У Горацкім раёне яны маюць высокі процант здаровых дрэў (ружовае—95,7 проц., штрэйфлінг—77,3 проц. і грушоўка рэвельская 100 проц.) і іх таксама можна разводзіць у садох Мсьціслаўшчыны.

Такім чынам, для разьвядзеньня ў выхавальніках можна раіць такія сарты: з зімовых — *антонаўка*, (*камянічка* і *чырвонабокая*), *бабушкіна пуцімка* (зімова-асеньні сорт); з асеньніх—*штрэйфлінг* і *цынамонавае паласатае;* з летніх--*ружовае*, *грушоўка рэвельская* і карабаўка.

З ігруш сустракаюцца такія сарты, *як сапяжанка*, *магдаліна паласатая*, *бульбянка*, *ільлінка*, *вінёўка* і інш.

Усе яны больш-менш здаровыя і пры выбары таго ці іншага сорту трэба глядзець толькі на якасьць пладоў.

**Л. Карлсон.**

(Горкі, с.-г. Акадэмія).

## Аб садох БССР.

1. *Да вывазу яблык.* Белсельтрэстам вядзецца перамова з Ленінградам аб вывазу ўвосень на ленінградзкі рынак да 50 тыс. пуд. беларускіх яблык.

2. *Пераробка садовіны на віно.* У мінулым годзе пераробка яблык на слабое фруктовае віно была нарыхтавана толькі ў адным саўхозе *Забалацьце* (Аршанскай акр.).

У гэтым годзе будзе пушчана яшчэ адна вінаробка ў саўхозе Грудзінаўка (Магілёўскай акр.). Там-жа будзе абсталяваны сушыльнаварачны завод для вырабу з садовіны пасьцілы, мармалядў і г. д.

3. *Дзе будуць прадавацца прышчэпы ўвосень.* Саўхоз Ігнатычы (Калініна) Менскай акр. дасьць да 5000 прышчэп; Блонь (Пухавіцкі раён)—2000 шт. і іншыя выхавальнікі 1000 шт.

Цана на прышчэпы будзе прыблізна 50-80 кап. штука.

# Жывёлагадоўля



## Якія маюцца палепшаньні ў жывёлагадоўлі.

*(З аб'езду спэцыялістага Ів. Н. Атабекянца па Слуцкай, Бабруйскай і Мазырскай акр.).*

Перш я аб'ехаў Слуцкую акругу. Тут працуюць тры зоотэхнікі і адзін кантроль-асыстэнт. Усе зоотэхнікі цяпер на мясцох праводзяць падрыхтоўчую працу па правядзеньню жывёлаводных выставак. Зімнія сэзонныя мерапрыемствы, як напрыклад, выбар лепшых вытворнікаў, прэміраваньне за паказальнае кармленьне кароў і перабудова скотных двароў тут праведзены сваячасна і з поўным посьпехам. У некаторых вёсках Капыльскага і Краснаслабодзкага раёну амаль усе вёскі зрабілі дацкія кармушкі і асьвятлілі двары. Апрача таго вёска Быстрыца Капыльскага раёну думае наняць да сябе зоотэхніка на свае сродкі, каб ён абсталяваў ёй арцельны завод, кантрольнае таварыства і злучпункт. Добрым працаўнікам у вёсцы Быстрыцы зьяўляецца мясцовы настаўнік і зоотэхнік Капыльскага раёну.

Пабудова паказальнага скотнага двара ў пасёлку Османы Капыльскага раёну яшчэ ня скончана, між тым як ён павінен быў быць збудаваным у канцы 1925 г.

Аглядзеў у саўхозе „Івань“, дзе будуюць сьвінарнікі для сьвінога племяннога завода.

Далей мною была абсьледавана Бабруйская акруга. Тут я даведаўся, што адпушчаныя НКЗ яшчэ ў студзені месяцы 1926 г. грошы на паказальнае кармленьне кароў і перабудову скотных двароў да гэтага часу яшчэ не скарыстаны. Таксама не скарыстаны сваячасна і грошы на прэміраваньне лепшых племянікоў-жарабкоў, быкоў і бараноў, якія прымалі ўдзел у злучкампані 1924-25 г., што вядома адбілася на працы злучкампаніі гэтага году.

Езьдзіць доўга па акрузе я ня меў часу, але наведаўся ў в. Вербкі 2-га Бабруйскага раёну, каб аглядзець там скотныя двары і па дарозе заехаў у саўхоз Дурынічы, дзе аглядзеў 8 бычкоў, якія гадуюцца на продаж сялянам.

У Мазыры праца зоотэхнікаў праводзілася вельмі слаба. Напрыклад, за зіму тут праведзена было паказальнае кармленьне толькі з 10-45 каровамі ў той час, як у другіх акругах пры тых-жа ўмовах праца гэта зроблена ў 2-3 разы шырэй. Апрача таго, адабрэньне племянікоў і прэміраваньне іх таксама праводзілася слаба. Крэдыты НКЗ на розныя мерапрыемствы па жывёлагадоўлі таксама ня ўсе скарыстаны і ёсьць астача ад сродкаў на паказальнае кармленьне і прэміраваньне лепшых племянікоў.

У Каролінскім раёне цяпер праводзіцца адабрэньне племянікоў і амаль ва ўсіх раёнах акругі вядзецца падрыхтоўчая праца па органі-

зацыі і правядзеньню жывёлаводных выставак. Праз сельсаветы насельніцтва асьвядомлена аб гэтым і трэба думаць, што выстаўкі будуць мець посьпех. У акрузе працуюць тры зоотэхнікі і адзін кантроль-асыстэнт.

Аб'язджаю Ансельмоўскі і Бярэзінскі сельсаветы. Паездка ў гэтыя сельсаветы была з мэтаю, каб аглядзець нямецкую скаціну і ўмовы яе ўтрыманьня. Гэту скаціну больш 100 год таму назад прывезьлі каланісты перш у Віленшчыну, а 1900 годзе яны перасяліліся ў Менскую губэрнію (галоўным чынам у гэтыя 2 с.-с.).

З мінулага году ў калоніі Клесіна Нароўлянскага раёну працуе масладзельны завод пры Бярэзінскім с.-г. таварыстве, які цяпер яшчэ больш пашырыў сваю працу (прапускае штодзень 130 пудоў малака).

У калоніі Аляскае (Каролінскага раёну) таксама ў хуткім часе пачне працаваць арцельны завод.

Кармовыя ўмовы гэтых раёнаў пакуль што дрэнныя, бо вялікія абшары сенажацяй вельмі забалочаны. Тут насельніцтва праводзіць месцамі канавы, але ў гэтай працы няма пляну і сыстэмы, затым, дапамога з боку мэліорацыйных органаў вельмі патрэбна.

У мінулым годзе ў Мазырскай акрузе працавала ўсяго два заводы па перааппрацоўцы малака, а ў гэтым годзе працуе 12 заводаў, але ў некаторых з іх працу яшчэ трэба наладзіць.

Такое пашырэньне заводаў кажа, што ў галіне разьвіцьця малочнай скаціны пачынае выяўляцца прамысловы напрамак.

---

# Як усьцерагчы гусянят, каб ня дохлі.

Часта бывае, што ў гарачае лета гусяняты падыхаюць. Як толькі захварэе гусянё, то яно апускае крыльля, ходзіць як п'янае, неахвотна шчыпле траву, пішчыць жаласным голасам, лапы і дзюбка бялеюць, адстае ад стадка і праз колькі дзён падыхае. Чым гарачэйшае лета, тым больш падыхае гусянят.

Трэба ведаць, што на тым месцы, дзе спаражняліся гусі, яны сядзець ня могуць, а шукаюць сьвежага і чыстага месца. Гэта значыць, што сама прырода гусей паказвае, як трэба берагчы іх ад хваробы.

Каб зьберагчы гусей ад хваробы, трэба кожны дзень гусячы гной пасыпаць негашанай вапнай, або сухім торфам, а паверх гэтага насланць саломы. Сьцены ў хлеве трэба тры разы ў тыдзень бяліць вапнай, або змываць карболаўкаю. Але лепш за ўсё гусей нанач пакідаць на дварэ і кожны дзень, выгнаўшы на пашу, гной зграбсьці ў хлеў і засыпаць яго там зямлёй. Раз у тыдзень надворак, дзе начуюць гусі, пасыпаць вапнай або торфам.

Калі пры гэтым якое гусянё захварэе, дык вядома яго трэба адлучыць ад здаровых. Калі рабіць гэтак, то гусяняты, напэўна, падыхаць ня будуць.

Сел. **Я. Альховік.**

# Праз насеннаводзтва да жывёлаводзтва.

Шмат дзе гаворыцца аб развядзеньні ў сельскай гаспадарцы прыбытковай жывёлы. Зразумела, што добрая жывёла ў гаспадара— гэта багацьця паўкута, але-ж каб жывёла была прыбытковай, дык трэба яе і глядзець як трэба, бо бяз гэтага нічога ня выйдзе.

Жывёла павінна быць забясьпечана і добрым кормам, дзеля чаго трэба пашыраць кармовыя травы, бабовыя расьліны і караньплоды замест папару.

Як толькі дзе пашырыцца поле кармовых траў і бабовых расьлін, дык там зараз-жа можна ўбачыць уздым жывёлагадоўлі і організацыю розных таварystваў, якія забясьпечваюць збыт прадуктаў жывёлагадоўлі і набыцьцё прадуктаў для пашырэньня гэтай справы. Можам мы гэта бачыць і на прыкладзе. *У вёсцы Пцічы, Заслаўскага раёну* (Меншчына) раней ніхто нават і ня думаў прадаваць малака, а калі і прадаваў, дык толькі больш заможны гаспадар. А *цяпер там організавана малочная арцель,* якая вырабляе сыр і масла і збывае іх організаваным парадкам.

Такім парадкам *сяляне вёскі Пціч і іншых вакольнічных вёсак зараз маюць значны прыбытак ад сваіх кароў.* А штурхачом да організацыі зьявіліся кармовыя травы (*выка, канюшына, сэрадэля*), якія ў апошнія гады пачалі засявацца кожным гаспадаром.

Другі прыклад. *У вёсцы Яркава* (Заслаўскага-ж раёну) *сабралася гаспадароў да 15, якія купілі сабе бітоны,* абабралі пункт для зноса малака і з гэтага ўжо пункту кожны гаспадар па чарзе возіць малако ў Менскае малочнае таварыства. Таксама організаваным парадкам яны купляюць сабе і высеўкі.

Тут ізноў-такі *кармовыя травы прымусілі Яркаўцаў да організаванага збыту малака,* бо раней ня было чаго прадаваць. А зараз у кожнага Яркаўца замест папару можна бачыць кавалачак канюшыны альбо сэрадэлі.

Вывад з гэтых фактаў можна зрабіць такі, што абы больш засявалася для скаціны кармоў, а справа жывёлагадоўлі тады разварушыцца хутчэй. Тут паўстае пытаньне: што рабіць, калі вясной няма грошай на куплю насеньня розных траў і інш. Трэба організаваць у вёсцы насеннае таварыства. Напрыклад, сяляне *вёскі Дзяхцяроукі па гэтаму шляху ўжо пашлі. З 29 сялян організавана насеннае таварыства „Новы Шлях“.* Паявыя ўзносы ўстаноўлены пакуль што 3 руб. Зараз па хадайніцтву АКРЗА Белсельбанкам дадзены крэдыт у 600 руб. на развядзеньне кармовых траў і высокасортнага насеньня ярыны. Палавіна крэдыту дадзена на год, а палавіна на 2 г.

І сёлета Дзяхцяроўцы ўжо пасеялі 15 пуд. аўса „Эхо“, 98 пуд. ячменю „Прынцэса“, 15 пуд. насеннай канюшыны і 74 п. выкі.

Такім чынам, Дзяхцяроўцы да 40 дзес. засеялі кармовымі травамі і высокасортнай ярыной пры дапамове насеннага таварыства.

І памойму ў селяніна хутчэй вясной знойдуцца якія 3 руб. дзеля уступленьня ў насеннае таварыства, чымся адразу знайці грошы на куплю насеньня для развядзеньня кармовых траў.

Дзеля гэтага спачатку трэба брацца за насеннаводную справу і калі яна будзе пастаўлена добра, дык тады латва будзе брацца за жывёлагадоўлю.

Сел. М.

# Адказ на артыкул Тарасенкі.

*(„Плуг“ № 5, старонка 29).*

Пытаньне, аб якім гутарыць Тарасенка („Жывёлаводны ўхіл сялянскай гаспадаркі“), павінна абмеркаваць ўсё сялянства. І праўда, калі запытаешся ў селяніна, на што ён трымае карову, то выходзіць, што толькі для гною. А выхад з такога дрэннага становішча найці можна. Трэба, каб селянін разводзіў кароў малочных. Тут павінны зьвярнуць увагу ўсе ўстановы. Напрыклад, у нас ёсьць шмат саўхозаў, вопытных станцый і г. д., а ці заўсёды яны прыносяць такую карысьць селяніну, якую трэба было-б чакаць? Часта, калі селянін і хоча купіць у саўхозе цяля на гадоўлю, то з яго запросяць амаль столькі, колькі каштуе яго карова. Вядома, пры такой дарагоўлі не завядзеш добрай каровы. Трэба, каб грамадзкія ўстановы, як камітэты ўзаемадапамогі, земаддзелы пільна ўзяліся за гэту справу і каб сялянству давалі больш ільгот па жывёлагадоўлі. Палепшаньне жывёлагадоўлі—неадкладная задача сялянства.

**Сел. Я. М. Савіцкі.**

Хут. Вербы, Магілеўшчына.

---

# Вэтырынарна-санітарныя папячыцельствы.

*Бяз хатняй скаціны няма гаспадаркі.* Скаціна дае сялянскай сям‘і неабходныя прадукты (малако, мяса, сала), лішкі якіх сельскі гаспадар прадае на гарадзкіх рынках. Таксама шкуры, шэрсьць, шчаціна ад с.-г. жывёл прыносяць даход сялянскай гаспадарцы. Апрача ўсяго гэтага скаціна ў гаспадарцы дае гной, які патрэбны для ўгнаеньня поля.

Адсюль зразумела, што сялянская гаспадарка ня можа абыйсьціся без скаціны. На куплю і ўтрыманьне сельска-гаспадарчых жывёл працоўныя гаспадаркі павінны ўкладваць аграмадныя сродкі і шмат працы.

*Хвароба жывёлы—убытак дзяржаве і селяніну.* Скаціна пры дрэнных умовах утрыманьня, няўмелым яе скарыстаньні часта хварэе і гіне, што сялянскія двары робіць заняпалымі, бо ў гаспадарцы часта няма грошай набыць у замен паўшай другую скаціну.

Ад заразных хвароб часта вымірае шмат скаціны і гэтым гаспадарцы наносіцца яшчэ большы ўбытак. Таксама пошасьць скаціны ад заразных хвароб павялічвае лік бязконных і безкароўных гаспадарак; павялічвае лік беспрацоўных і шмат сялянскіх сем‘яў застаюцца без патрэбных прадуктаў. Гэта няшчасьце зьмяншае ў Рэспубліцы пасеўную плошчу і дзяржаўныя даходы, ад сельска-гаспадарчага падатку і наадварот патрабуе ад дзяржавы дапамогі пастрадаўшым. Дзякуючы значнай страты скаціны ад заразных хвароб, сяляне баяцца павялічыць лік жывёлы ў сваёй гаспадарцы і не разводзяць палепшанай скаціны.

Акрамя таго, пашырэньне заразных хвароб на хатнюю жывёлу не дае нам магчымасьці наладзіць гандлёвыя зносіны з іншымі дзяржавамі, якім хоць і патрэбна наша скаціна, шкуры, шчаціна і іншае сыр‘ё ў замен якога яны-б маглі нам даць сельска-гаспадарчыя машыны і іншыя рэчы, але не купляюць, бо баяцца, каб не занесьці да сябе заразу; усё гэта мяшае пасьпешнаму разьвіцьцю нашай сельскай гаспадаркі.

Тут трэба адзначыць, што заразныя хваробы як чума, павальнае запаленьне лёгкіх буйной рагатай жывёлы, сап, шаленства, хваробы сьвіней і іншыя апрача таго, што губяць шмат скаціны, некаторыя з іх перадаюцца ад жывёл чалавеку.

*Сельская вэтэрынарыя і яе задачы.* Вядома, што ўсякая гаспадарка можа паляпшацца толькі тады, калі яна прыносіць даход і калі сродкі будуць без рыска затрачаныя на яе вядзеньне. Між тым жывёлагадоўля якраз і зьяўляецца рыскоўнай галінай сельскай гаспадаркі, бо скаціна часта хварэе і падае. Адсюль зразумела, што адных сродкаў і працы на разьвядзеньне с.-г. жывёл мала, а дзеля гэтага яшчэ трэба знаць як гадаваць, карміць і скарыстоўваць жывёлу, каб не пашкодзіць яе здароўю. Несьвядомасьць гаспадара ў гэтых пытаньнях вельмі часта бывае прычынай ня толькі зьніжэньню карысьці ад жывёлы, але і зьяўленьню пошасьці.

Ня менш важнай умовай для нормальнага разьвіцьця сялянскай жывёлагадоўлі зьяўляецца ахова яго ад заразных хвароб і лекавая дапамога хворай жывёле. Лячэньне хворай жывёлы, барацьба з заразнымі хваробамі і разтлумачэньне, як гадаваць, карміць і скарыстоўваць свойскую жывёлу, а таксама як папярэджваць заразныя хваробы, спаўняецца на сяле вучастковымі вэтэрынарамі.

У працы вучастковага вэтэрынара вельмі часта бываюць перашкоды, якія тлумачацца тым, што сяляне яшчэ да гэтага часу добра ня ведаюць значэньня і карысьці вэтэрынарнай дапамогі. Часта сяляне зьвяртаюцца за дапамогай не да вэтэрынара, які імкнецца дапамагчы сялянскай гаспадарцы сваімі ведамі, а да канавалаў, знахароў, шаптуноў і іншых прахадзімцаў, якія карыстаюцца несьвядомасьцю насельніцтва. А да чаго даводзіць зьвяртаньне да канавалаў, напэўна, знаюць шмат якія гаспадары. Гаспадар, хворай жывёлы, толькі напрасна траціць грошы на бескарысные лячэньне і вельмі часта траціць жывёлу, згубленую няўмелым лячэньнем канавала.

Вэтэрынар Іоффэ.




# Як будуецца новая вёска ў Калінінсшчыне і Магілеўшчыне.

У чэрвені мне давялося пабываць у некаторых раёнах Калінінскай і Магілеўскай акругі. У гэтым артыкуле я буду казаць аб некаторых ураджаньнях ад сваёй паездкі. Пачну з Калінінсшчыны.

За зіму мясцовыя агрономы правялі ў акрузе вялікую працу па распаўсюджваньню с.-г. ведаў, правялі напрыклад 22 с.-г. курсаў (у мінулым годзе толькі 9). Вясеньняя бяскорміцца яшчэ раз падкрэсьліла тое, аб чым казалі на курсах агрономы: бяз корму, без кармовых траў на полі—няма добрай гаспадаркі. І пашлі сяляне вясной за насеньнем кармовых траў. Насеньня канюшыны, выкі, сэрадэлі па акрузе ў гэтым годзе разышлося больш чым у мінулым.

Паказваю лічбы па аркузе ў пуд.

| Разышлося | вясной 1925 г. | вясной 1926 г. |
|---|---|---|
| Канюшыны. . | 800 | 1150 |
| Выкі . . . . | 2500 | 7500 |
| Сэрадэлі. . . | 80 | 400 |

Сэрадэля ў акрузе малавядомая расьліна; яе бяруць на спробу па троху, слабавата ішло насеньне лубіна, між тым, як у Калінінсшчыне ён быў-бы вельмі карысны, асабліва ў паўднёвых пескавых раёнах. У адным з такіх раёнаў (Белынкавічы) мне здарылася пабываць.

Едзем па раёну: кругом лёгкія пескавыя глебы, нізкарослае рэдкае жыта. Радам-жа зялёная палоска добрага жыта; гэта па лубіну, які першы раз пасеяў гаспадар. І тут без лубіну сялянству не абыйсьціся на сваіх пяскох. Белынкавічскі раён на Калінінсшчыне лічыцца адным з заняпалых; але і тут сялянства ўжо пачынае ўводзіць палепшаньні. У мінулым годзе па ўсяму раёну насеньня канюшыны разышлося 1½ п., а вясной гэтага году 60 пуд.; выкі ў мінулым годзе—17 пуд., у гэтым—500 п.; тое самае з лубінам і сэрадэляй.

Нельга было не заўважыць у гэтым раёне *пасёлка Саснавец*. У ім 16 двароў, 189 дзес. зямлі, з якой 120 дзес. пахаці і 44 сенажаці. Гэты пасёлак заснаваўся яшчэ ў 1923 годзе, але канчаткова земляўпарадкаваўся ў гэтым годзе. Зямля да гэтага часу была запушчана і частку яе адводзілі пад пашу для скаціны бліжэйшага селішча. Пасёлкаўцы ў большасьці бедныкі.

Вадзіў нас па полі ўпоўнаважны—даволі сьвядомы селянін. „Вось пасеялі канюшыну—10 п. высеялі. Тут пробуем сеяць сэрадэлю. Вось сенажаці перабаранаваныя, а барану бралі ў агранома“, кажа селянін. Пасёлкаўцы ўжо ведаюць, якую карысьць дае ўнясеньне ў глебу та-

масаўкі і фосфарытнае мукі. Езьдзяць за тамасаўкай у Сураж, там яна дзешавей абыходзіцца. Аграном заклаў на пасёлкаўскім полі ў мінулым годзе некалькі дзялянак з мінэральнымі ўгнаеньнямі пад жыта; можна было бачыць як выдзелялася дрэннае жыта няўгноеных кантрольных вучасткаў.

Словам, пасёлак Саснавец—прыклад савецкага бядняцкага пасёлка, які мае ўжо прыметныя дасягненьні.

*А вось пасёлак Аўчыньнікава;* заснаваўся ён яшчэ да вайны (у 1911 г.), у ім усяго 7 двароў. Тут заведзены 9-ці польны севазварот з трохгоднім карыстаньнем канюшыны. Канюшыну пачалі тут сеяць год дзесяць таму назад. Канюшына з першага году дае з аднаго скосу да 400 п. з дзес. Насеньне канюшыны ўзрашчваюць самі і частку яго прадаюць.

Ужываюць мінэральныя ўгнаеньні—*тамасаўку* (пад жыта), *супэрфосфат* (пад ярыну). Пачынаюць сеяць караньплоды. Ураджаі маюць даволі высокія: *жыта зьбіраюць з дзес. 80-100 пуд., бульбы 800-1000 п.*

„Як сталі сеяць канюшыну, так куды стала лягчэй;—з канюшынай не прападзеш!“ казалі гаспадары, паказваючы на канюшыннае поле. За добрае вядзеньне гаспадаркі пасёлак атрымаў прэмію (гняздо раманаўскіх авечак).

Па Магілеўшчыне заслугоўвае ўвагі праца Магілеўскага насеннага Т-ва. Пачало працаваць яно з 1925 г. дзякуючы ўдзелу мясцовых аграномаў (Гапановіча і Пятрова). Цяпер яно аб'ядноае 560 гаспадарак—пайшчыкаў з агульнай зямельнай плошчай 6453 дзес.

Вясной гэтага году ў гаспадарках пайшчыкаў закладзена насенных вучасткаў на плошчы 433 дзес., якіх пад канюшынай—72 дзес., выкай—108, лубінам—85, сартаваным збожжам (аўсом і ячменем)—135 дзес.

У насеннае т-ва ўваходзяць большасьць мясцовых сялян-культурнікаў іх зарэгістравана па акрузе больш 120.

У хутары аднаго з такіх культурнікаў мне давялося пабыць (у Магілеўскім раёне). У гаспадарцы ўсяго каля 11 дзес., з якіх пад пахацьцю 10 дзес., 3/4 дзес. пад садам і сялібай. У сям'і 5 душ. Заведзен 7-мі польны севазварот з двухгоднім карыстаньнем канюшыны, асобным полем пад бульбу. Маецца пара коняй, чатыры дойных каровы, заводзкі бык, а ўсяго з маладняком і дробнай скацінай 18 галоў. Сад добра абгледжаны, поле добра вырабляецца (заўсёды глыбока ўзорваюць з восені пад ярыну), заводзяцца пасевы сартовага аўса (эхо) і г. д.

Гаспадарка гэта зьяўляецца пайшчыкам насеннаводнага т-ва. Ураджаі даволі высокія; бываюць гады калі жыта дае да 120 пуд. з дзес. і больш.

Гаспадар у часе вайны быў ва ўсходняй Нямеччыне.

„Ня доўга там мы былі, а ўсё-ж такі я прыглядзеўся да немцаў“. Цяпер ён упэўнены, „што зямля рук і галавы патрабуе: трэба ўмець гаспадарыць“.

Такіх гаспадароў па Магілеўшчыне, да і па другіх акругах Беларусі ня мала.

*Вось пасёлак Адверніца Бельінкавічскага раёну*; гэты пасёлак, як і Саснавец у Калініншчыне недаўна заснованы (на быўшай панскай зямлі). Пасёлак невялікі; мае дзесяць двароў, на якія прыходзіцца ў сярэднім па 6-6½ дзес.

Пахатная зямля разьбіта аграномамі на пяць палёў; у гэтым годзе ўжо сеялі канюшыну. Другі год сеюць лубін. Жыта вышла добрае па лубіну: „Харошая штучка гэты лубін: жыта расьце як па гнаі“, кажуць пасёлкаўцы. У некаторых дварох зрабілі кармушкі для скаціны: гэта вынік праведзенага тут паказальнага кармленьня. Гаспадыні і тыя праканаліся, што больш карысьці ад скаціны, калі яе карміць правільна.

Усё гэта расткі новай вёскі. *Перааранае рэвалюцыяй, абсеянае агрономічнымі ведамі і векавым вопытам самога сялянства, беларуская вёска дае „ўсходы“ новых карысных людзей.*

А. Міхайлаў.

---

# Трэба вучыцца працаваць у селяніна вёскі Лёхава С. Сялюкіна. *)

(*Што робіць чырвоны с.-г. куток і часопіс „Плуг“.*)

Яшчэ раз напішу, хто ў нас завёў што-небудзь новае, чытаючы часопіс „Плуг“. У мяне знаходзіцца ўжо 1½ гады чырвоны куток, куды зьбіраюцца сяляне, асабліва ў сьвяточныя дні. „Плуг“ я ім безмалага ўвесь прачытваю.

У гэтым годзе, калі надышла вясна, нашы сяляне ўскалыхнуліся і пачалі будаваць гаспадарку па новаму. Так, напрыклад, селянін *Цярэньці Сялюкін* з вёскі Лёхава, які вёў сваю гаспадарку па дзедаўску, атрымаў у крэдытовым таварыстве 20 фун. насеньня канюшыны і пасеяў яе па ярыне, а таксама атрымаў 30 фун, сэрадэлі, якую пасеяў па ячменю. Апрача таго ён атрымаў барану-пружыноўку і плуг „Фенікс“ і падаў заяву на агропункт, каб яго гаспадарку разьбілі на шматпольле. У папары ён сёлета пасеяў выку, а пасьля яе будзе сеяць жыта. Усю гэту працу ён робіць чытаючы час. „Плуг“ і газэту „Беларуская Вёска“.

Другі селянін в. Лёхава таксама атрымаў насеньне сэрадэлі і пасеяў па жыту, якое праскарадзіў, як раіў „Плуг“; пасеяў 20 фун. канюшыны і 5 фун. цімафейкі. Купіў плуг Сухені, падаў заяву аб пераходзе на шматпольле, завёў кампосную кучу, як напісана ў „Плузе“.

*Селянін Драздоў Дзямід* таксама пераходзіць на шматпольле, пасеяў 1 п. сэрадэлі, заняў больш дзесяціны канюшынай, завёў заняты бульбаю і выкай папар, як было напісана ў № 7 „Плуга“ за 1925 г.

*Селянін Янка Сялюкін* пакуль што толькі ўгноіў поле торфам, які здабывае на сваім хутары пры распрацоўцы балота.

Шмат сялян, хоць невялікімі кавалачкамі, але пачалі сеяць канюшыну і сэрадэлю, бо корму мала, а часопіс „Плуг“ раіць іх сеяць, як добры корм для жывёлы.

Я ў сваю чаргу сёлета, дзякуючы „Плугу“, завёў шмат чаго новага, на што і бацька згадзіўся.

Першае, пры дапамозе сваіх аграномаў я разьбіў свой хутар з трохполкі на шасьцёхпольле і залажыў шмат розных досьледаў. Я засеяў каля ¾ дзес. канюшынай, заняўшы пад яе адно з палёў. Вяду

*) Такую назву лісту селяніна С. Сялюкіна рэдакцыя дае ад сябе, каб зьвярнуць на яго належную ўвагу. (Рэд.).

спробу над зялёным угнаеньнем лубіна і дзеля гэтага запрасіў да сябе агронома і заняў лубінам кавалак папару, разьбіўшы яго на 6 дзялянак так:

| | | |
|---|---|---|
| Дзялянка № 1. | Дзялянка № 2. | Дзялянка № 3. |
| Кантрольная. | Лубін. | Лубін па гною. |
| Абараняючая палаca. | | |
| Дзялянка № 3. | Дзялянка № 2. | Дзялянка № 1. |
| Лубін па гною. | Лубін. | Кантрольная. |

Кожная дзялянка мае 30 квадр. саж., а абараняючая паласа 1 саж. Глеба супескавая, падглеба пясок, схіл мае на захад.

Гэты вопыт я буду старацца зрабіць як мага лепш, каб даказаць нашым сялянам, якія яшчэ ня вераць і не ахвотна заводзяць новае, ды да таго-ж і самому цікава.

Апрача вопыта з лубінам я залажыў *досьлед і з мінэральным угнаеньнем*, дзеля чаго таксама разьбіў дзялянкі вось так:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Дзялянка № 1, | Дзялянка № 2. | Дзялянка № 3. | Дзялянка № 4. | Дзялянка № 5. |
| Лубин па гною. | Супэрфосф. 9 ф. | Тамасаўкі 12 ф. | Супэрф. 12 ф. | Тамасаўка 15 ф. |
| Абараняючая палаca. | | | | |
| Дзялянка № 5. | Дзялянка № 4. | Дзялянка № 3. | Дзялянка № 2. | Дзялянка № 1. |
| Тамасаўкі 15 ф. | Супэрфосф. 12ф. | Тамасаўкі 12 ф. | Супэрф. 9 ф. | Кантрольная. |

Гэтыя дзялянкі таксама па 30 кв. сажн. на супескавой глебе, пасьля бульбы па гною са схілам на захад.

Далей мною заложаны *вопыты з попелам пад бульбу, ячмень і жыта.* Пад бульбу я падсыпаў па жменьцы попелу пад кожную расьліну і заняў 60 кв. сажн., па разьліку 100 пуд. на дзес.

Па ячменю я зрабіў так: адвёў дзьве дзялянкі па 60 кв. сажн. кожная і на аднэй пасеяў ячмень з попелам па разьліку 90 пуд. на даес. попелу, а другую пакінуў так.

Далей, вясной, як толькі прасохла зямля, я *прабаранаваў адзін кавалак жыта ў 100 сажн*, а поплеч з ім пакінуў кавалак небаранаваным. Баранаваў драўлянай бараной у 3 сьляды ўдож і поперак.

Там, дзе сьнег вясною на пшаніцы заляжаўся я падсеяў попелу і ўжо прыметна карысьць, бо пшаніца адрасла і ідзе вельмі добра.

Нам у сельсавет прывезьлі трыер і сартоўку, дык я *сваё насеньне ачысьціў*. Ды і ўсе сяляне ваколічных вёсак ачысьцілі сваё насеньне, бо пры дапамозе майго чырвонага кутка і „Плуга“ зразумелі ка-

рысьць ачысткі. Далей, у многіх гаспадароў у збожжы было шмат галаўні (сажы), дык я прывёз ад агрономаў формаліну і пратравіў ім збожжа.

У нашай вёсцы Лёхава і суседняй в. Сутокі ёсьць балота „Сабалевец“ каля 100 дзес. плошчаю. Сяляне ўзяліся за распрацоўку яго, а торф вывозяць, зьмешваюць з вапнай і ўгнойваюць поле.

Шмат чаго яшчэ бяруцца рабіць сяляне пры дапамозе часопісі „Плуг“. Толькі пры дапамозе с.-г. кніжкі мы зможам правільна паставіць сваю гаспадарку, толькі пры дапамозе „Плуга“ мы робімся дасьледчыкамі.

Селянін **Сялюкін**.

---

# Гаспадарка селяніна-латыша Аўгуста Вендта.

*(Межанскі раён, Віцебшчына.*

Гаспадарка А. Вендта і ня зусім культурная, але-ж і яна паказвае сялянам, як трэба будаваць і весьці сваю гаспадарку.

Селянін Вендт мае цяпер 51 г. З маленства ён пасьвіў скаціну, але і тады ўжо прыглядаўся да сельскай гаспадаркі: як лепш выраблязь пахаць, як гадаваць сад і інш.

У 1916 г. Вендт прыехаў са сваёй сям'ёй на хутар, дзе жыла маці яго жонкі, і пачаў разводзіць сад і інш. Зямлі ў Аўгуста Вендта 24 дзес. (пахаці 10 дзес., сенажаці 8 і няўдобіцы 6 дзес.). Сям'я з 5 душ; працаўнікоў мае толькі 2. Два большых сыны—піонэры.

Гаспадарка Вендта добра арганізавана, севазварот мае шасьцёхпалёвы. Кожны год сеецца жыта каля 17 пуд., бульбы 50 п., рознае ярыны 30 пуд. і лёну 2 п.

Сярэдні ўраджай жыта з дзесяціны 70 пуд. З скаціны Вендт трымае 5 кароў і 2 коняй. Каровы сіментальскіе пароды. Летась Вендт на раённай выстаўцы атрымаў плуг за бычка 8 тыдняў. Корміцца скаціна канюшынаю, яра ой саломай і сенам. Каровам даюцца караньплоды па нормах. Удоі малака ў сярэднім 18 фун. у суткі. Мае сэпаратар і маслабойку.

Глеба на хутары Вендта лёгкая, сугліністая, мясцовасьць узгоркі.

Сярод расьлін трэба адзначыць канюшыну. выку, цімафейку.

Будынкі Вендта—дом, хлявы, гумно, пуні ўсе добра пабудаваны.

Сел. Вендт праслухаў усе с-г. курсы, сам мае невя ічкую бібліотэку. Зараз ён хоча выраблязь галяндэрскі сыр, на што ўжо падрыхтаваў матар'ял. Суседнія сяляне ў А. Вендта шмат чаму вучацца.

**Селянін С. Сялюкін.**

---

# Як лепш пашыраць сельска-гаспадарчую кнігу.

**Сельска-гаспадарчую кніжку трэба зрабіць масавай. Найлепш пашырыць яе праз с.-г. курсы, школы дарослых сялян, выстаўкі, с.-г. склады і г. д.**

У рэдакцыю „Плуга“ часта прысылаюцца лісты сялян, асабліва сялян-беднякоў, з просьбай выслаць ім бяз грошай часопісь „Плуг“ ці выпісаць якую-небудзь газэту. (Адзін сялянскі ліст канчаўся так: „просім восем чалавек сялян-беднякоў. Пісаў Кузьміч, а ўсе слухалі“).

Ня гледзячы на тое, што зараз амаль кожная сялянская кніжка БДВ выходзіць ня менш, як у ліку 10000 экз.; (прыблізна такім-жа тыражом разыходзіцца і часопісь „Плуг“), а ёсьць шмат сялян, якія кнігі ці газэты яшчэ ня чытаюць. Прычын гэтаму некалькі. Дзеля адных завысока падпісная плата, (у бюджэце селяніна і 2 руб. многа значыць); іншыя ня ведаюць, дзе дастаць кнігу (кніга далёка ад селяніна), а шмат хто яшчэ не зразумеў і значэньня с.-х. кнігі.

Але з усяго гэтага з пэўнасьцю можна зрабіць адзін вынік, што звычайны спосаб распаўсюджваньня сялянскіх кніжак праз кнігарні, як розных тавараў (мануфактуры, солі, карасіны) праз крамы, трэба лічыць яшчэ ня пэўным, ці вельмі абмяжаваным. Селянін яшчэ не прызвычаіўся хадзіць у краму і там купляць сабе кнігу. У кнігарні многа кніг і „дзе яму малапісьменнаму выбраць патрэбную кнігу!“ Сяляне яшчэ мала купляюць кнігу, а робяць гэта толькі адзінкі.

Але новае жыцьцё вёскі, рацыяналізацыя працы, замацаваньне шматпольля і г. д. ня можа адбыцца па слову суседа Петрака ці Янкі, а вымагае поўных ведаў.

Селяніну патрэбны веды, патрэбна агульная асьвета, культурнасьць. Бяз гэтага можна назіраць, як вёска часам, дзякуючы данадзяленьню зямлёю, увядзеньню шматпольля ці якому-небудзь іншаму мерапрыемству, хутка ўзьняла свой дабрабыт, але ў культурным напрамку і ў сваім грамадзкім жыцьці застаецца на месцы. Рост культуры не расьце разам з экономічным ростам.

Усё гэта толькі лішні раз сьведчыць аб тым, што справа прасоўваньня сялянскай кніжкі (газэты, часопісі) ў вёску, ня ёсьць справа толькі Дзяржаўнага выдаведцтва ці кожнай рэдакцыі паасобку, а справа ўсіх савецкіх ці грамадзкіх устаноў і паасобных працаўнікоў. Для большай выразнасьці гэтай думкі трэба паказаць некалькі самых простых мэтадаў ці форм масавага прасоўваньня сялянскай і сельскагаспадарчай кнігі ў вёску.

1. *Калі канчаюцца двухтыднёвыя ці месячныя с.-х. курсы у вёсцы, с/с, раёне то ўсім слухачам трэба абавязкова даць набор с.-г. літаратуры бяз кошту.* Дзеля гэтых сялян ня шкода патраціць лішніх 10 руб. на організацыю курсаў, бо кніжак яны ня скураць, а будуць чытаць.

2. Таксама трэба рабіць і пры спыненьні заняткаў у школе дарослых сялян. Школа вучыла сялян гаспадарыць па новаму. Яна-ж павінна была навучыць іх і весьці гаспадарку, чытаючы кнігу.

3. З вясны і да восені па Беларусі праходзяць розныя с.-г. выстаўкі (па жывёлагадоўлі, птушніцтву, садоўніцтву), „Дзень Сьвята ўраджаю“ і г. д. Дык ці ня можна было-б ужо пры самай організацыі выстаўкі вылучыць нейкія сродкі на куплю сялянскай літаратуры (выданьні БДВ, часопісь „Плуг“ падпіска на газ. „Беларуская Вёска“) з тым, каб кожны селянін, які не атрымаў прэміі, а экспонаты на выстаўку прывозіў, атрымаў-бы хоць на 20-50 кап. сялянскіх кніжак. У яго яны таксама не загінуць дарма, бо гэта найбольш культурны селянін.

4. *Цэнтраземсклад у Менску і яго аддзяленьні у акругах і раёнах* (тое-ж можна сказаць і пра склады Белсельсаюзу) *колькі прадаюць сялянам розных машын, плугоў, угнаеньня, сартавога і рознага насеньня!* Было-б зусім практычным, каб кожнаму селяніну пры пакупцы ў 10-50 руб. выдавалася бяз кошту і кніжная прэмія на 20-50 кап. Думаю, у гандлёвым балансе гэта вялікага значэньня ня мела-б, а спра-

ва разумнага і здаровага прасоўваньня кніжкі выйграла-б шмат. Вядомая рэч, што пры куплі селянінам угнаеньня і кніжка ў першую чаргу павінна давацца па ўгнаеньню.

5. Разам з усім гэтым патрэбна і шырокая агітацыя за кніжку сярод сялян з боку настаўніцтва, агрономаў і наогул усіх мясцовых працаўнікоў. Пры гэтым ня трэба забываць, што ў галіне сельскай гаспадаркі цікава і патрэбна ў першую чаргу кніжка, якая прыстасавана да ўмоў Беларусі і адбівае сапраўднае жыцьцё нашай вёскі, якая толькі пачынае будавацца па новаму.

6. Ня менш патрэбна і разумная кніжная рэкляма. Трэба адмовіцца ад рэклямы праз газэты, а патрэбна нейкая аб'яднаная праца ўсіх выдаўцоў у зьбіраньні адрасоў найбольш цікавых і пастаянных чытачоў. Ніводзін селянін-падпішчык, селянін-дапішчык ці чытач не павінен траціцца для сялянскай газэты ці часопісі.

Такім чынам, толькі пры агульных і самых уважлівых адносінах да сялянскай кніжкі і па выхадзе яе ў сьвет, можна спадзявацца, што вялікая ідэя У. І. Леніна—*культурны рост краіны*—стане рэяльным фактам.

Дык больш увагі прасоўваньню кніжкі (газэты, часопісі) ў вёску!

**С. Тупяневіч.**

# Зямляўпарадкаваньне

## Якія правы на зямлю маюць быўшыя арэндатары.

Памешчыкі, як вядома, самі не выраблялі зямлю, а рабілі гэта за іх арэндатары і батракі. На захадзе арэнда была вельмі пашырана; прычым да звальненьня сялян ад прыгону, арандатарамі тут былі прышлыя людзі—каланісты. Памешчыкі іх звалі да сябе і яны пасяляліся ў лесе, расчышчалі яго, а затым карысталіся зямлёю за пэўны чынш.

Большасьць такіх арэндатараў, якія пражывалі ў адным маёнтку больш 50 год, выкупілі зямлю яшчэ да рэволюцыі. У правох на зямлю яны параўналіся з сялянамі.

Асобы-ж, якія арэндавалі зямлю ня так доўга, ня мелі права на выкуп. Адны з іх трымалі ў арэндзе цэлыя маёнткі і эксплёатавалі іх таксама, як і памешчыкі, а большасьць з іх гаравала на заарэндованай зямлі.

Склад арэндатараў цяпер ужо зьмяніўся. Каланістаў і выхадцаў з другіх мясцовасьцяй стала менш. Зямлю ў арэнду пачалі браць, галоўным чынам, мясцовыя сяляне, якія мелі мала надзельнай зямлі. Попыт на зямлю павялічыў арэндную плату.

Рэвалюцыя ўсіх быўшых арэндатараў падзяліла на дзьве катэгорыі—*непрацоўных* і *працоўных*. Першыя разам з памешчыкамі і ўпраўляючымі іх былі выселены з маёнткаў. Другія засталіся на месцы.

*Якія-ж іх правы на зямлю, якую яны трымалі ў арэндзе да рэвалюцыі?*

Пытаньне гэта аднолькава вырашаецца, як у тых мясцовасьцях, што адышлі да БССР у зьвязку з павялічэньнем, так і ў старой Меншчыне, хоць на падставе і розных распараджэньняў.

Выданая ў РСФСР 30 студзеня 1918 г. інструкцыя па правядзеньню ў жыцьцё закону аб соцыялізацыі зямлі залічае да „фонду адабраных зямель“ угодзьдзі прыватных непрацоўных гаспадарак, якія знаходзіліся ў фактычным уладаньні казны, банкаў, цэркваў і памешчыкаў.

Фонд адабраных зямель дзеліцца інструкцыяй на: а) *запасныя землі*, якія прызначаны да разьмеркаваньня ў працоўнае карыстаньне і б) *непадлягаючыя разьмеркаваньню*, землі спэцыяльнай культуры і прамысловага значэньня (саўхозы і г. д.).

Знача, у склад фонду адабраных зямель, а разам з тым і ў склад запаснага фонду ў РСФСР ня былі залічаны прыватныя землі, якія былі да рэвалюцыі ў працоўнай арэндзе, таксама як і сялянскія надзельныя землі. Прававое становішча тых і другіх аднолькавае.

У старой Меншчыне правы сялян, а таксама і працоўных арэндатараў на зямлю, якая была ў іх працоўным карыстаньні да часу

звальненьня Беларусі ад польскай окупацыі, азначаюцца пунктамі 11 і 13 тэзісаў па аграрнаму пытаньню, зацьверджаных 17 сьнежня 1920 г. II Усебеларускім Зьездам Саветаў. Адзначаныя пункты тэзісаў устанаўляюць, што *„ўсё сялянскае і наогул усё працоўнае земляробства застаецца пры першых уладарцах на правах землякарыстаньня. Працоўнай гаспадаркай лічыць тую, якая вядзецца самім землякарыстацелям без прымяненьня наёмнай працы"*.

Такім чынам, спачатку рэвалюцыя, а затым і пабудаванае на ёй зямельнае законадаўства скасавалі ўсе прававыя розьнічы, якія раней былі паміж паасобнымі катэгорыямі сельска-гаспадарчых зямель, прыватных, надзельных, царкоўных, арэндаваных і інш. падзяліўшы іх толькі на землі працоўныя і непрацоўныя.

Першая катэгорыя зямель была пакінута першым землякарыстацелям, другая ўзята дзяржавай у свае рукі, і разьмеркавана ў большай сваёй частцы (каля 90 проц.) організаваным парадкам сярод беззямельных грамадзян. Рэшта непрацоўнай зямлі сельска-гаспадарчага назначэньня залічана ў склад дзяржаўных зямельных маемасьцяй.

І так, *быўшыя працоўныя арэндатары прыватнай зямлі, дзякуючы рэвалюцыі, карыстаюцца ўсімі правамі працоўных землякарыстацеляй.* Застаўшаяся ў іх зямля не зьяўляецца запасным фондам. Яна ня можа быць разьмеркавана сярод беззямельных грамадзян, пакінуўшы быўшаму арэндатару толькі найменшую норму нараўне з грамадзянамі, кія надзяляюцца зямлёй.

Па Зямельнаму Кодэксу ад працоўнага землякарыстацеля зямля можа быць адабрана на падставе закона (арт. 12) у выпадку ўчыненьня на яе незаконных умоў, вядзеньня на ёй такой гаспадаркі, якая спустошвае зямлю, пакідаючы яе без апрацоўкі звыш азначанага тэрміну, а таксама пры абрэзцы.

Гаспадарка быўшага працоўнага арэндатара, які мае лішкі звыш установленай нормы належыць абрэзцы на агульнай падставе з іншымі землякарыстацелямі. Пасьля абрэзкі быўшаму арэндатару павінна быць пакінута найбольшая норма.

Усякае адабраньне зямлі, якое праводзіцца бяз згоды працоўнага землякарыстацеля, павінна абавязкова прайсьці праз зямельную камісію.

Усе гэтыя палажэньні вынікаюць з памянёных вышэй распараджэньняў (інструкцыі Наркамзема РСФСР ад 30 студзеня 1918 г. і рэзалюцыі II Усебеларускага Зьезду Саветаў ад 17 сьнежня 1920 г.), норм Зямельнага Кодэксу і растлумачэньня Асобаў Колегіі Вышэйшага Кантролю, абвешчанага 14 траўня 1925 г. у журнале № 8 распарадзіцельнага пасяджэньня. Азначанае тлумачэньне кажа: *„Быўшыя дарэвалюцыйныя працоўныя арэндатары, памешчыкаў і іншых прыватных зямель, захаваўшыя сваё землякарыстаньне да гэтага часу, маюць права працоўнага землякарыстаньня на гэтую зямлю. Такая зямля ня ёсьць дзяржаўны запасны фонд і не падлягае загэтым разьмеркаваньню ў парадку земляўпарадкаваньня.* Гаспадаркі быўшых працоўных арэндатараў, якія маюць зямлі звыш установленай найбольшай нормы, належыць толькі абрэзцы на агульнай падставе".

Але трэба мець на ўвазе, што паказаныя вышэй правы на зямлю маюць толькі тыя асобы, якія да рэвалюцыі карысталіся на праве арэнды зямлёю сельска-гаспадарчага прызначэньня і карыстаюцца ёю да гэтага часу. Затым, напрыклад, ня могуць быць залічаны да земляў

працоўнага карыстаньня тыя быўшыя памешчыкаў сенажаці, якія кожны год здаваліся з таргоў на скос грамадзянам за частку скошанага сена. У гэтым выпадку сьемшчыкі не былі доўгатэрміновымі арэндатарамі, а сэзоннымі рабочымі, якія атрымалі за сваю працу ўзнагароду натурай.

Таксама вучасткі з-пад высечанага лесу, якія здаваліся ў арэнду на 3-4 г. і на якіх у далейшым можа вясьціся лясная гаспадарка, не належаць да зямель працоўнага карыстаньня, а застаюцца ў складзе дзяржаўнага ляснога фонду.

Пры тым-жа фондзе знаходзяцца ўсе службовыя лясныя надзелы.

Землі-ж, якія даўно расчышчаны з-пад лесу і заўсёды здаваліся ў працоўную арэнду з мэтаю вядзеньня на іх сельскай гаспадаркі, зьяўляюцца цяпер землямі працоўнага карыстаньня і ў тым выпадку, калі-б яны ляжалі ў межах ляснога фонду. Прад'яўленьне к карыстацелям такіх зямель жаданьня аб утварэньні на іх арэндных дагавораў, а тым больш высяленьне з гэтых зямель быўшых арэндатараў, зьяўляецца няправільным. Калі гэтыя землі патрэбны для лясной гаспадаркі, то адабраны яны могуць быць толькі на падставе 21 і 22 арт. Зямельнага Кодэксу, г. зн. у парадку земляўпарадкаваньня. Пры гэтым землякарыстацелю трэба адвесьці зямлю ў другім месцы і вярнуць яму ўсе ўбыткі па перасяленьню. Урэшце, быўшыя працоўныя арэндатары, якія цяпер не карыстаюцца зямлёю, што ў іх была да рэвалюцыі, ня могуць цяпер вярнуць яе, бо страцілі на гэта права на падставе 44 арт. Грамадзянскага Кодэксу.

**Аўг. Вішнеўскі.**

---

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

*Пытаньне 28.* Ці можа акруговая зямельная камісія пры скасаваньні дагавораў на саўхозы, сады і інш. дзяржаўную маемасьць адначасна здавальняць грамадзянскія іскі старон, і калі можа, то ў межах якой сумы. (Калінінская акрземкамісія).

*Адказ.* Пунктам „а“ арт. 20 інструкцыі аб парадку правядзеньня спраў у зямельных камісіях ад 11 сьнежня 1925 г. акруговай зямельнай камісіі падсудны іскі аб скасаваньні дагавораў на зямельныя вучасткі з складу дзяржаўнай маемасьці і вынікаючыя з гэтых дагавораў іскі аб убытках, без абмяжаваньня іх сумы.

*Пытаньне 29.* Як на практыцы стораны, якія судзяцца, павінны карыстацца зямлёю, калі разам яны ня могуць ужыцца, а зямельная камісія прызнала гаспадарку недрабімай. Ці могуць у такім выпадку стораны пасямейна разьмеркаваць зямлю па трудавых адзнаках і апрацоўваць яе паасобна да земляўпарадкаваньня.

*Адказ.* Калі зямельная камісія прызнала гаспадарку недрабімай, то фактычнае разьмеркаваньне зямлі паміж членамі двара зьяўляецца незаконным. Прызнаўшы гаспадарку недрабімай, а сумеснае жыцьцё старон немагчымым, зямельная камісія можа даць членам двара, якія прасілі аб разьдзеле, права на надзяленьне зямлёю з запаснага фонду ў першую чаргу.

*Пытаньне 30.* Калі агульны сход на падставе пунк. „в“ арт. 50 Зямельнага Кодэксу можа прымаць новых землякарыстацеляй толькі з зямлёю, то хто мае права прымаць у аб'яднаньне беззямельных?

*Адказ.* Членамі зямельнага аб'яднаньня на падставе арт. 46 Зямельнага Кодэксу зьяўляюцца асобы, якія карыстаюцца ў ім зямлёю. За тым ня можа быць беззямельных членаў зямельнага аб'яднаньня. Надзяленьне зямлёю з запаснага фонду праводзіцца не аб'яднаньнямі, а зямельнымі органамі.

*Пытаньне 31.* Калі перасяліўшыся на паселкі грамадзяне перанясуць туды свой будынак раней, як праз 3 гады, то ці можа Зямельная Камісія па хадайніцтву зацікаўленых грамадзян прымусіць, першых землякарыстацеляй перадаць іх сялібныя вучасткі новым землякарыстацелям раней 3 год.

*Адказ.* У гэтым выпадку Зямельная камісія ня толькі можа, але і павінна перадаць сялібу новаму землякарыстацелю па яго іску, бо сяліба павінна скарыстоўвацца па яе прызначэньню, а не для вядзеньня на ей палявой гаспадаркі ранейшымі землякарыстацелямі.

*Пытаньне 32.* Ці можна пры земляўпарадкаваньні адвесьці гаспадарцы зямлю па расцэнцы звыш устаноўленай нормы, калі яна дрэнная?

*Адказ.* Пры земляўпарадкаваньні магчымы адвод зямлі звыш нормы.

## Парады агронома на ліпень—жнівень.

1. *Пасеў выкі з аўсом на корм* пасьля прыборкі жыта ці раньняга ячменю. Такая мешаніна дасьць добры зялёны корм к восені.

2. *Пажніўнае лушчэньне.* Калі поле пасьля прыборкі збожжа зараз-жа ўзараць на 1—$1^{1}/_{2}$ вярш., то яно пачынае папарваць. Такая няглыбокая воранка (*лушчэньне*) вельмі спрыяе добраму вырабу поля пад бульбу наступнага году. Больш падрабязна аб гэтым гл. „Плуг“ за 1925 г. № 7 (*Чым замяніць папар*).

3. *Заворваньне канюшынішча пад жыта.* Ня трэба пазьніцца з заворваньнем канюшынішча, калі гаспадар думае правесьці дзьве воранкі. Пры аднэй воранцы добра заараць канюшынную атаву.

4. *У садзе пара ставіць падпоры*, калі ўраджай садовіны прадбачыцца вялікі.

5. *У садзе штодня трэба зьбіраць падаліну*, каб не пашыраліся хваробы.




# Падсобныя лясныя промыслы ў сялянскіх гаспадарках Беларусі.

„Перанасяленнасьць“ у нас на Беларусі і, значыцца лішак працоўных рук у вёсцы—відаць усім. Загэтым падсобныя лясныя промыслы ў сялянскай гаспадарцы павінны мець значную ролю.

*Лясы нашай Рэспублікі—гэта наша багацьце.* Каб да гэтага багацьця правільна падыйсьці і разумна яго скарыстаць, тады павялічылі-б свае заработкі сяляне, мела-б карысьць і дзяржава. На вялікі жаль, сяляне, якія цяпер у шмат якіх мясцох Беларусі займаюцца луснымі промысламі, вядуць гэтыя промыслы бяз усякага парадку. Ад гэтага вынікае падвойная страта: *вялікая страта дзяржаве,* якая не атрымоўвае ад лясоў таго даходу, што яны маглі-б даць; *ня меншая страта і насельніцтву,* якое таксама не атрымоўвае поўнага даходу ад свайго промыслу.

### Здабыча і скарыстаньне лубу.

Лубам звычайна завуць садраную з ліпы кару. Луб таксама можна здабываць і з іншых лясных парод, але ліпавы луб лічыцца самым валакністым.

З ільну атрымоўваецца добры луб, які прыгодны нават на выраб тканін. На Сахаліне бабы вырабляюць з валакна ільнянага лубу асобую тканіну для адзежы, якую афарбоўваюць наварам альховай кары; а на Каўказе з яго ўюць вяроўкі і нават вырабляюць дываны.

Вязовы луб таксама можа служыць для рознага прызначэньня хаця па сваёй якасьці ён горшы ад ільнянага і ліпавага лубу. Шмат дзе з маладога вязовага лубу плятуць лапці. З хмызьнякоў на луб добра скарыстўваць „воўчае лыка“, з валакна якога плятуць добрыя дыванчыкі. Але з ім трэба быць асьцярожным, бо ўсе яго часткі ядавіты. Лазовая кара, якая ідзе ў нас на дубленьне скур таксама можа быць скарыстана на лапці і іншыя вырабы.

Асабліва цэнны ліпавы луб, чаму яго больш і здабываюць. Ліпавых лясоў у нас няма, а таму рубку на луб трэба весьці сумленна, а то ўжо і цяпер трудна бывае знайсьці добрую, годную для луба ліпу.

Вырубаць можна ня ліпавы маладняк, а дрэвы ня менш 3-4 вярш. у дыямэтры на вышыні грудзей. Апроч таго, можна вырубаць старыя ліпы (20-40 г.); што ідуць на дровы, бо яны даюць луб горшы.

Трэба памятаць, што зваліўшы дрэва з больш буйных суччаў можна атрымаць луб, а з драбнейшых лыка на лапці. Драць луб лепш за ўсё вясною, з другой паловы траўня пры раньняй вясне і да першай паловы чэрвеня пры позьняй вясне. Драўніна ліпы вельмі каштоўна ў тачыльнай і сталярнай справе, а затым кару здымаюць асьцярожна, надразаючы яе колцамі кругом дрэва. Дзеля таго, каб раства-

рыць клейкавіну лубу, трэба яго мачыць. Пасьля мочкі аддзяляюць луб ад кары маленькаю лапатачкаю—качадыком. Здабытае гэтакім чынам мачала падсушваюць на жэрдках, каб яно не загнівалася. Дрэвы, з якіх зьнята кара, расьпільваюць на дошкі, фанеру і карыстаюцца імі ў тачыльных майстэрнях.

*Луб ад маладых ліп завецца лыкам.* Вось тут ужо без агаворак выяўляецца наша безпарадачнасьць. Калі ўзяць нашу Беларусь з насельніцтвам звыш 4 мільёнаў, то па некатораму падліку можна ўбачыць, што нам кожны год патрэбна да 15 мільёнаў пар лапцей.

Каб зрабіць пару лапцей, трэба абадраць тры маладыя ліпкі. Значыцца, каб сплесьці 15 мільёнаў пар лапцей, трэба абадраць 45 мільёнаў маладых ліпак. Але гэта яшчэ мала, з ліпавага лыка ўюць вяроўкі, робяць рагожу, кошыкі. Усё гэта даводзіць да таго, што ліпа паступова зьнішчаецца. Неабходна ў свой час зьвярнуць на гэта ўвагу і заняцца разьвядзеньнем ліпы. Апроч таго там, дзе можна, трэба замяняць ліпу другімі пародамі, што даюць моцнае лыка. Трэба таксама памятаць, што драўніну ліпы пасьля зьдіраньня лубу варта скарыстоўваць не на дровы, а на розныя вырабы: верхнія дошкі для сталоў, табачныя яшчыкі, драўляную пасуду, лапаты, музыкальныя струмэнты і інш.

*Для схаднейшага скарыстаньня ліпы трэба было-б організоўваць арцелі*, якія павінны кіраваць працаю так, каб на месцы скарыстоўваліся і луб, і лыка, і драўніна ліпы. У арцель павінны ўвайсьці рагожнікі, рашотнікі і сталяры. Пры такой пастаноўцы арцель хутка-б справілася з загатоўкаю лубу і лыка. Час для гэтай працы—канец сяўбы ярыны і бульбы. К восені канчаецца загатоўка матар'ялу, а зімою пасьля малацьбы, брацца за выпрацоўку рагож, мяшкоў, лапцей, вяровак з лыка, рашот, пасуды, лыжак і інш. прадметаў. Гэткім чынам, галоўная праца ідзе ў свабодны час, і пры організацыі такой арцелі ліпа будзе скарыстоўвацца цалком.

### Здабыча бяросты.

У тых мясцовасьцях, дзе ліпы расьце мала, здабываюць і скарыстоўваюць бяросту. Але, нажаль, скарыстоўваюць таксама без усякага парадку, як і луб ці лыка. Дзе не папала абдзіраюць лепшыя бярозы, якія пасьля гэтага паршывеюць, а то і зусім усыхаюць.

З бяросты робяць вёдры для вады, лапці і іншыя рэчы. Таксама яна служыць і для выгану дзёгцю; прычым дзёгаць гоніцца самым простым хатнім спосабам.

Бяросту дзяруць вясною і загатаўляюць яе вузкімі паскамі, цэлым лістом і трубамі.

Трэба адзначыць, што пры абдзіраньні бяросты, кару праразаюць толькі да ўнутраной буравата-зеленаватай кары; тады гэта ня шкодна бярозе і бяроста на дрэве ў далейшым ізноў аднаўляецца. У некаторых выпадках нават пасьля зьдіраньньня другой, новай бяросты, яна вырастае і ў трэці раз.

Бяроста лічыцца лепшай, калі яна здабываецца з бяроз сярэдняга ўзросту, ад аднаго да двух аршын—у абхваце. Лепшая бяроста на дзёгаць будзе з тых бяроз, якія растуць у яловым дрэвастане на сухой глебе. Прыблізна з 5-6 фунтаў бяросты выходзіць адзін фунт дзёгцю.

Б. Ліпкін.

# КРАЯЗНАЎСТВА.

## Сяляне, будуйце агнятрывалую будову.

Узяў раз я ў хаце-чытальні кніжку профэсара Скачкова, які апісваў, як будаваць дзяшовую будоўлю з хворасту, гліны і каменьня. Мне захацелася збудаваць такую будыніну. Кніжку я добра прачытаў і разьлічыў, колькі трэба будзе падрыхтаваць матар'ялу.

Зараз-жа мы прыступілі і да працы, каб пабудаваць хлеў. Загатавалі хворасту (2 кубы), паскрэблі яго, каб ён высах. (Сьцены мы рабілі на $^1/_2$ арш. таўшчыні і на 11 арш. даўжыні).

Гліну капалі з восені; гэта дае магчымасьць лепш яе мясіць.

Будавалі хлеў мы так: фундамент паклалі з каменьняў на глыбіню $1^1/_4$ і таўшчыню 14 вярш. (на два вяршкі таўсьцей чым сьцяна). На падмуроўку палажылі па аднаму палену, а далей ішла гліна з хворастам.

Рабіць такі будынак можна з 1 красавіка па 1 кастрычніка. Зрабіўшы падмуроўку, трэба паставіць абапал стойкі (адна напроціў другой і на адлегласьці сьцяны). За стойкамі ставіцца па дзьве дошкі, каб закідаць паміж дошак гліну, якую праз слой у 4 вяршкі трамбуюць, каб ня было шчылін паміж калоў стойкі.

Стойкі трэба ставіць ня танейшыя, як $2^1/_2$ вярш. і з аднаго боку ад сьцяны абчасаць, каб добра прыставалі дошкі. Дошкі спусьціць рубанкам (ставілі па дзьве на кожную старонку). Стойкі ў версе зьвязваюць і адна ад аднэй ставяцца на $1^1/_2$—2 аршыны. Шульлі можна мураваць з цэглы, а калі яе няма, то можна ставіць драўляныя і іх пасьля абмураваць. Над верхам вушака трэба пакідаць пустое месца на 2 вярш. на асядку сьцяны.

Хлеў мы зрабілі з 3 сьцен. Лепка гліны ў вышыню была на 3 аршыны, калі ня лічыць драўляныя скрэпы ў вярху з бравеньня на $^1/_2$ арш.

Усяго пашло 1 саж. каменьня на падмуроўку, 36 вазоў гліны і 6 бярвён на скрэпы пад кроквы, каб страха давіла на ўсю сьцяну, а не на яе часткі. На падмуроўку пашло яшчэ 5 пудоў вапны.

У хлеве зрабілі 2 вакны, каб было сьвятло; умаравалі 4 балкі для насьцілкі столі (столь будзе замазана глінаю, каб ня гарэла). На гэта ўсё патрэбна было 6 жаночых і 38 мужчынскіх дзён, ня лічачы працы на страху.

Гэта пастройка ў Пухавіцкім раёне (першая ў нас) зацікавіла ўсіх сялян ваколічных хутароў і вёсак, бо гэта пастройкі вельмі дзяшовыя і не гараць. Бярвеньня-ж ў нашым раёне дастаць трудна, бо лесу мала.

Сьцяну, каб яна не размакала трэба ашчыкатурыць вапнаю з двух бакоў і папраўляць яе праз кожныя 3-5 год.

Пастройка можа стаяць гадоў сто і больш.

Страху рабіць лепш жалезную, але ня кожнаму гэта даступна і за гэтым можна рабіць яе з саломы і гліны, як гэта апісана ў часоп. „Плуг № 6. („Як будавацца, каб агню не баяцца").

Гэтыя пастройкі могуць прыняць масавы характар сярод сялян, калі аб іх публікаваць у мясцовых газэтах і часопісях і даваць сялянам якія-небудзь льготы. Чытачы „Плуга", задумайцеся над гэтым пытаньнем.

(Хут. Сарачынава, Меншчына). Сел. А. Карнейчык.

# С.-Г. ХРОНІКА.

## Падлікі пасеўнай кампаніі 1926 г.

Агропрапаганда. За зіму ў агровучастках было праведзена 222 с.-г. курсаў з якіх:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 4-х тыднёвых | 33 | 2-х тыднёвых | 114 |
| 3-х „ | 47 | 1-х „ | 22 |

За ўвесь мінулы год было праведзена ўсяго 127 курсаў з 6.820 слухачамі. З усіх курсаў 190 было агульных (лекцыі па галоўных галінах с.-г.), а спэцыяльных—18 па жывёлагадоўлі, 11 па садоўніцтву, гародніцтву і пчалярству. На ўсіх 222 курсах было сталых слухачоў 10.940 чалавек, з якіх маладых (да 18 год) 2.410 чалавек і старшага ўзросту 8.530 чалавек. Акрамя курсаў, аграномамі было праведзена ва ўсіх акругах 5.830 лекцый і гутарак з 243.750 слухачамі (веды да 1 красавіка 1926 г.).

У канцы сакавіка і пачатку красавіка ў большасьці раёнаў праводзіліся вясеньнія сэсіі с.-г. Саветаў, дзе абгаварваліся пляны правядзеньня веснавой с.-г. кампаніі.

### Забесьпячэньне насельніцтва машынамі, насеньнем і ўгнаеньнямі.

Запас насеньня, машын і ўгнаеньняў для насельніцтва рабілі цэнтральны с.-г. склад НКЗ і с.-г. коопэрацыя. Таксама ў падрыхтаваньні насеньня аўса і ячменю прымалі ўдзел і Камітэты ўзаемадапамогі, якія павінны былі і разьмяркоўваць гэта насеньне сярод насельніцтва.

Колькі разышлося насеньня, кармовых траў і караньплодаў, можна бачыць з табліцы.

| Гады | Кармовых траў у пудох | | | | Караньплодаў у пудах | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Канюшыны | Цімафейкі | Вікі | Сэрадэлі | Буракоў | Турнэпсу |
| 1926 | 17427 | 1480 | 38846 | 9876 | 1120 | 80 |

Разышлося рознага насеньня ў пудох.

| Гады | Лубіну | Лёну даўг. | Аўса | | Ячменю | | Іншага зярна | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Звыч. | Сарт. | Звыч. | Сарт. | | |
| 1926 | 33546 | 11784 | 154000 | 12000 | 24000 | 15000 | 3500 | Веды па аўсу і ячменю даны па 9акр. (без Калін.). |

За пасеўную кампанію мінулага году разышлося насеньня значна менш; так, напрыклад, кармовых траў—37944 п., лубіну—25910 п. лёну-даўганца—4634 п. і зярновых 144 тысячы пуд.

*С.-г. машыны і прылады.* Па пашырэньню машын і прылад можна паказаць цяпер лічбы толькі па 9 акругах (апрача Калінінскай).

| Па вырабу зямлі | | | Па ачыстцы зярна | | | | | Усяго адзінак | З іх | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Плугі | Бароны | Асыпнікі | Сартоўкі | Трыеры | Льнатрэп. | Арфы | Сеялкі | | Для глебы | Для зярна |
| 37624 | 6834 | 1876 | 247 | 67 | 41 | 961 | 61 | 47710 | 46334 | 1316 |

Попыт на землеробчыя прылады і машыны, сеялкі і г. д. з боку сялянства быў здаволены поўнасьцю.

*Мінэральныя ўгнаеньні.* Колькі разышлося мінэральных угнаеньняў па ўсіх акругах можна бачыць з табліцы.

| Фосфарных | | | | Калійных | Чылійскай салетры | Усіх угнаеньняў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Супэрфосфату | Тамасаўкі | Касьцянае мукі | Фосф. мукі | | | |
| 120039 | 34207 | 5995 | 6661 | 9850 | 303 | 177060 |

Больш усяго мінэральных угнаеньняў разышлося па Віцебскай акрузе (103961 пуд.), менш у Слуцкай (332 пуды). С.-г. складамі і с.-г. коопэрацыяй зроблены вялікі запас мінэральных угнаеньняў, якія пойдуць пад пасеў азімых (асабліва тамасаўкі, фосфарытнай і касьцяной мукі).

*Ачысшка і пратручваньне насеньня.* Па ачыстцы зярна ў веснавую пасеўную кампанію зрабілі шмат. Ачыстка насеньня пачалася на аграўчастках у большасьці акругах з сьнежня—лютага м-ца. Па ачыстцы сялянскага насеньня працавала каля 1200 машын, па ачыстцы зярна (у мінулым годзе толькі 800 машын).

*Паказальныя вучасткі.* У 8 акругах (апрача Калінінскай і Мазырскай) вясной было закладзена агрономамі 2770 палявых, 154 лугавых, 119 гародных паказальных вучасткаў і праведзена, як паказальная праца па пасадцы і догляду за садам у 86 сялянскіх садох. Усяго гэта праца ахапіла 3129 дзес., або 3006 гаспадароў.

Па паляводзтву больш усяго закладзена паказальных вучасткаў з кармовымі караньплодамі (627), лубінам (461), сэрадэляй (480), мінэральнымі ўгнаеньнямі (545). У мінулым годзе ўсяго паказальных вучасткаў было 2007.

*Шматпольле.* Вясною па завядзеньню шматпольля праца вялася па двум напрамкам: а) па разьбіўцы на полі шматпольля, падсеву траў для тых гаспадарак, якія яшчэ не пачалі сеяць у мінулым годзе пры пераходзе к шматпольлю; б) па захаваньню тых севазваротаў, якія былі закладзены ў мінулым годзе. Веды аб праведзенай працы маюцца толькі па 8 акругах (апрача Мазырскай і Калінінскай).

Праца па пераходу на шматпольле пачата (на 8-мі акругах) у 1394 пунктах з агульнай зямельнай плошчаю каля 50.000 дзесяцін (у 289 пасёлках і 118 селішчах). Праведзена праца па захаваньню раней закладзеных шматпольных севазваротаў у 590 пунктах з агульнай плошчаю 18.478 дзес., з якіх (99 пасёлкаў і 19 селішчаў). А усяго вясной гэтага году праведзена праца па ўвядзеньню шматпольля ў 1984 пунктах з агульнай плошчаю каля 68.500 дзес. (358 пасёлкаў і 137 селішчаў).

Вось галоўныя падлікі веснавой пасеўнай кампаніі. Галоўнымі перашкодамі ў правядзеньні кампаніі былі: а) зацягнуўшаяся зіма, ад чаго ня было чым карміць скаціну і гаспадар мусіў скарміць частку пасеўнага насеньня; б) слабасьць нізавой коопэрацыі ад чаго была вялікая прыбаўка цэн на адпускаемае сялянству праз коопэратывы насеньне, угнаеньні і замена даўгатэрміновых крэдытаў на кароткатэрміновыя.

Аднак можна лічыць, што гэта вясна дасьць сельскаму гаспадару Беларусі новыя дасягненьні. Пасевы на акругах кармовых траў, лубіну, кораньплодаў павялічыліся; незаняты папар зьмяншаецца.

А. Міхайлаў.

---

Выданьне Наркамзему.

Адк. рэд. Зьм. Прышчэпаў.

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*

## ЗЬМЕСТ


Стар.

1. Да ўраджаю восені трэба рыхтавацца зарані (С. Т.) . . . . . 1

### Палявая гаспадарка.

2. Сейце лубін у аржоньні (М. С.) . . . . . . . . . 3
3. Як падрыхтаваць аржоньне пад бульбу (Сел. А. Карнейчык) . . . . 4
4. Карыстайцеся фосфарытам, як угнаеньнем (Дз. Пракапенка) . . —
5 Вывозка і заворваньне гною на папар (А. Карнейчык). . . . 6
6. Падвойны пяцёхпалёвы севазварот (Сел. Янка Карзон) . . . —

### Сялянскі досьлед.

7. Мой досьлед з угнаеньнем пад бульбу (Настаўнік Л. Чалоўскі) . . 9
8. „Ары папар рана з вясны—будзеш з ураджаем" (Сел. Я. М. Савіцкі) . 10
9. Досьлед з канюшынай (Б. Шымковіч) . . . . . . . 11

### Садоўніцтва.

10. Не спазьнецеся пасадзіць садсвай буйнаплоднай суніцы (М. Бурштэйн) . 13
11. Савецкая садовая гаспадарка Лютня (А. Калер) . . . . 14
12. Абсьледаваньне садоўніцтва Мсьціслаўшчыны (Л. Карлсон) . . . 15

### Жывёлагадоўля.

13. Якія маюцца палепшаньні ў жывёлагадоўлі . . . . . . 18
14. Як усьцерагчы гусянят, каб ня дохлі (Сел. Я. Альховіч) . . . 19
15. Праз насеннаводзтва да жывёлаводзтва (Сел. М.) . . . . 20
16. На артыкул Тарасенкі (Сел. Я. М. Савіцкі) . . . . . 21
17. Вэтэрынарна-санітарныя папячыцельствы (Вэтэрынар Іоффэ) . . —

### Дзяржаўная дапамога вёсцы.

18. Як будуецца новая вёска ў Калінінпічыне і Магілеўшчыне (А. Міхайлаў) . 23
19. Трэба вучыцца працаваць у селяніна вёскі Лёхава С. Сялюкіна (Сел. Сялюкін) 25
20. Гаспадарка селяніна-латыша Аўгуста Вендта (Сел. С. Сялюкін) . . 27
21. Як лепш пашыраць сельска-гаспадарчую кнігу (С. Тупяневіч) . . —

### Зямляўпарадкаваньне.

22. Якія правы на зямлю маюць быўшыя арандатары (Аўг. Вішнеўскі) . . 30
23. Пытаньні і адказы па зямельным справам . . . . . . 32

### Лясная гаспадарка.

24. Падсобныя лясныя промыслы (П. Ліпкін) . . . . . . 34
25. Сяляне, будуйце агнятрывалую будову (Сел. А. Карнейчык) . . . 36
26. С.-г. хроніка . . . . . . . . . . . . 37

381



Менск, 1-я Дзярж. друк. „БДВ“. Заказ № 3363—(6750) экз. Галоўлітбел № 19293.